ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 40 (2619)
ПЯТНІЦА
6
кастрычніка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Фота Ул. КРУКА.

## ВІНШУЕМ!

УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

### АБ ПРЫСВАЕННІ ЗВАННЯ ГЕРОЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПРАЦЫ ПАЭТУ БРОЎКУ П. У.

**За выдатныя заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і плённую грамадскую дзейнасць прысвоіць паэту Броўку Пятру Усцінавічу званне Героя Сацыялістычнай Працы з уручэннем яму ордэна Леніна і залатога медаля «Серп і Молат».**

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР
М. ПАДГОРНЫ.
Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР
М. ГЕАРГАДЗЕ.

Масква, Крэмль. 3 кастрычніка 1972 г.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ

# ПАРТЫЙНАЯ МУЗА ПАЭТА

Грамадскасць рэспублікі ўрачыста адзначыла 60-годдзе з дня нараджэння народнага паэта БССР Максіма Танка.

Максім Танк... Гэта імя — па гонару і праву — увайшло ў плеяду буйнейшых паэтычных імён сучаснай савецкай літаратуры. Ужо больш чым сорак гадоў гучыць, дорачы людзям радасць, мужны і лірычны, палымяны і задушэўны голас Яўгена Іванавіча Скурко, які выбраў літаратурны псеўданім Максім Танк. Пад гэтым імем ведаюць яго мільёны чытачоў у Савецкай краіне і за яе межамі. Кнігі беларускага паэта перакладзены на многія мовы народаў СССР. На родных мовах чытаюць Максіма Танка ў Польшчы, Балгарыі, Чэхаславакіі, Югаславіі... Такі зайздросны лёс сапраўднай, вялікай паэзіі — крочыць праз моўныя і дзяржаўныя рубяжы да сэрцаў людзей.

Сын бедняка-селяніна з Заходняй Беларусі, Максім Танк з юных гадоў непадзельна аддае свае сілы і талент служэнню працоўнаму народу і яго баявому авангарду — Камуністычнай партыі. Юны падпольшчык-камуніст, інструктар ЦК камсамола Заходняй Беларусі, ён і ў паэзіі праяўляў такую ж мужнасць, як у рэвалюцыйнай барацьбе. Ні арышты, ні канфіскацыя яго першых кніжак пілсудчыкамі буржуазнай Польшчы не зламалі волю паэта-байца.

Новую радасную сілу набыў голас Максіма Танка, калі ўз'ядналася пад чырвонай савецкай зоркай уся зямля Беларусі.

У лютыя гады фашысцкага нашэсця пяро паэта-камуніста, яго вершы і палымяная публіцыстыка натхнялі савецкіх воінаў і партызан, дапамагалі ім граміць ненавіснага ворага.

Шчодры ўклад унёс Максім Танк у пасляваенную беларускую літаратуру. Ён стварае новыя паэтычныя кнігі і перакладае на родную мову рускіх класікаў, лепшых савецкіх і зарубежных паэтаў. Ён праводзіць літаратурныя даследаванні і ні на дзень не спыняе шырокай грамадскай дзейнасці.

Гэтай шматграннай, складанай і цяжкай работай поўная кожная гадзіна жыцця паэта і сёння, калі за яго плячыма ўжо 60 гадоў.

Радзіма, партыя, народ удастоілі паэта-грамадзяніна высокім прызнаннем і давер'ем. Максім Танк — дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР і старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі, член Савецкага камітэта абароны міру, акадэмік АН БССР. Яго заслугі перад Радзімай адзначаны двума ордэнамі Леніна, ордэнам Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. За ўдзел у вызваленні Польшчы паэт узнагароджаны Афіцэрскім крыжам адраджэння Польшчы.

Правафланговы беларускай літаратуры М. Танк — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, Купалаўскай літаратурнай прэміі і прэміі Таварыства польска - савецкай дружбы.

Паэта штодзённа акружае жывая любоў тых, для каго ён стварае, каму кожным радком сваім аддае часцінку ўласнага сэрца. Аб гэтай жывой любві красамоўна гаварыла перапоўненая зала Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, дзе адбылося віншаванне Максіма Танка.

Вітаць юбіляра прыйшлі Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, другі сакратар ЦК КПБ А. Н. Аксёнаў, сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, першы сакратар Мінскага абкома КПБ І. Я. Палякоў, першы сакратар ЦК ЛКСМБ У. І. Падрэз, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, народны пісьменнік БССР Кандрат Крапіва, народны паэт БССР Аркадзь Куляшоў, загадчыкі аддзелаў ЦК КПБ С. Я. Паўлаў і С. В. Марцалеў, сакратар Мінскага абкома КПБ У. С. Багданаў, першы сакратар Мінскага гаркома КПБ М. М. Слюнькоў, госці з брацкіх рэспублік, беларускія пісьменнікі, прадстаўнікі калектываў прадпрыемстваў і будоўляў Мінска, дзеячы мастацтва, культуры і навукі, студэнты, воіны ЧБВА.

У фае тэатра ўдзельнікі вечара пазнаёміліся з выстаўкай кніг юбіляра. Некаторыя з іх, выдадзеныя яшчэ да ўз'яднання Беларусі, даўно ўжо сталі бібліяграфічнай рэдкасцю.

Сотні паклоннікаў творчасці М. Танка з цікавасцю агледзелі выстаўку фатаграфій, якія адлюстравалі вёску Пількаўшчыну на нарачанскай зямлі, дзе нарадзіўся паэт, яго бацьку і маці. На здымках—эпізоды дэпутацкай дзейнасці юбіляра, сустрэчы з чытачамі, гутаркі з таварышамі па пяру.

Вечар адкрыў народны пісьменнік БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі Іван Мележ.

Расказваючы аб этапах творчага станаўлення і росту юбіляра, пачынаючы з першага верша «Касагоры», напісанага ў 1930 годзе, Іван Мележ падкрэсліў:

— Паэзія Максіма Танка ва ўсе часы ішла разам з народам па магістральнай яго дарозе. Гэта — адна з самых характэрных яе прыкмет.

Слова атрымлівае сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін. Ён зачытаў і ўручыў юбіляру прывітальны адрас ЦК КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў рэспублікі, цёпла сустрэты апладысментамі ўдзельнікаў вечара.

Са словам аб юбіляру выступіў народны паэт Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі Герой Сацыялістычнай Працы Пятрусь Броўка.

— Да асабістага знаёмства з Максімам Танкам, — сказаў ён, — я шмат чуў аб ім, аб яго страснай паэзіі ад Валянціна Таўлая, ад Янкі Купалы і Якуба Коласа. Сардэчным і радасным было маё асабістае знаёмства з ім. Я пераканаўся: у нашу сям'ю беларускіх пісьменнікаў прыйшоў мужны і вялікі талент. Бадзёры, звонкі, моцны голас паэта заклікаў да барацьбы за шчасце народа, за новае светлае жыццё, імя якому—камунізм.

Далей П. Броўка гаворыць аб тым велізарным укладзе, які зрабіў Танк у развіццё беларускай літаратуры сацыялістычнага рэалізму, у яе інтэрнацыянальныя сувязі з літаратурамі брацкіх рэспублік і прагрэсіўнымі літаратурамі зарубежных краін. Ён пажадаў юбіляру моцнага здароўя і новых звонкіх вершаў.

Максіма Танка прывяла ў баявую, страсную літаратуру барацьба, рух за ўз'яднанне Заходняй Беларусі з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай у адзінай сям'і савецкіх народаў узняў яго з жыццёвых глыбінь, сказаў у сваім выступленні народны артыст СССР Р. Р. Шырма. У гэтым руху барацьбіт-падпольшчык М. Танк быў у першых радах.

Рыгор Раманавіч расказаў аб рэвалюцыйнай дзейнасці Максіма Танка ў Заходняй Беларусі, падзяліўся ўспамінамі аб тым, як сярод прагрэсіўна настроеных мас была сустрэта яго маладая, поўная рэвалюцыйнага, грамадзянскага пафасу паэзія.

Сваё выступленне Р. Р. Шырма закончыў здравіцай у гонар юбіляра і зваротам:

— Мы чакаем ад цябе, дарагі Максім, новых вялікіх таленавітых твораў.

На трыбуне — вядомы беларускі паэт Максім Лужанін. Ён гаворыць аб тым, што Максім Танк падарыў сваім чытачам вялікі свет пачуццяў барацьбы, працы, інтэрнацыяналізму. Чытачы ведаюць Танка як рэвалюцыянера - падпольшчыка, як воіна ў барацьбе супраць фашызму, як актыўнага барацьбіта за пабудову камунізму, палымянага інтэрнацыяналіста і нястомнага змагара за мір.

Далей М. Лужанін, гаворачы аб тым, як М. Танк разумее вялікае чалавечае шчасце, за якое змагаецца працоўны народ, чытае вершы юбіляра:

**Простае шчасце людское,**
**Так, як і наша з табою,**
**Пэўна, складаецца з солі,**
**З хлеба, сабранага ў полі,**
**З поту, дарожнага пылу,**
**З роднага небасхілу,**
**З дружбы, мацнейшай ад смерці,**
**З песні... І так мне здаецца:**
**Каб з чаго іншага скласці,**
**Дык ці было б яно шчасцем.**

— У барацьбе за светлыя ідэалы чалавецтва бачыць Танк прызначэнне паэзіі, — працягвае М. Лужанін. — За гэта яму наша павага, удзячнасць, любоў.

Выступае кіраўнік дэлегацыі Саюза пісьменнікаў СССР, сакратар яго праўлення Сяргей Сартакоў. Звяртаючыся да юбіляра, ён гаворыць:



Максіма Танка віншуюць піянеры.

Фота Ул. КРУКА.

— Мне выпаў высокі гонар вітаць вас як таленавітага паэта і аднаго з сакратароў праўлення Саюза пісьменнікаў СССР ад імя пісьменніцкіх саюзаў усіх нашых брацкіх сацыялістычных рэспублік, якія прадстаўляюць шматнацыянальную, адзіную, магутную савецкую літаратуру. Цяпер яна цвіце і развіваецца на 75 мовах.

Напомніўшы юбіляру аб адным з яго шматлікіх падарожжаў па Савецкай краіне, Сяргей Сартакоў гаворыць:

— Калі вы былі на заводзе штучнага валакна ў Краснаярску, вам прысвоілі там высокае званне члена брыгады камуністычнай працы. Гэта не было простай павагай да свайго госця, а прызнаннем вашых сапраўды вялікіх заслуг у літаратуры, вашых сапраўды камуністычных адносін да працы. Сёлета я зноў пабываў на гэтым заводзе. І рады паведаміць вам, Яўген Іванавіч: ваша імя па-ранейшаму значыцца ў спісах той жа брыгады.

Гэта вялікае шчасце для пісьменніка — ведаць, што словы яго, думкі яго, кнігі яго працуюць нястомна, акрыляючы людзей. Вы — уладальнік такога шчасця. Яно заваявана па праву. Таму што паміж вамі і зямлёй, якая дала вам жыццё, родную мову і палымянае сэрца паэта, няма пустаты, адлегласці. Вы — адзінае цэлае!

Гэту думку аб злітнасці Максіма Танка з народам, аб высокай любві, заваяванай ім у шматмільённай чытальніцкай аўдыторыі па ўсёй Савецкай краіне, прадоўжыў пасланец пісьменнікаў Украіны паэт Сцяпан Алейнік.

— Вашы кнігі, як родныя, увайшлі ў дамы і сэрцы народа маёй Украіны,—сказаў ён.— Поўныя грамадзянскага пафасу і прыгажосці, тонкага лірызму і партыйнай страснасці, яны сёння — верныя сябры і субяседнікі, дарадчыкі і памочнікі многіх і многіх людзей у іх агульнай вялікай працы па камуністычнай перабудове жыцця.

— Я прывёз вам, дарагі наш Максім Танк, прывітанне ад пісьменнікаў Савецкай Літвы, прывітанне ад нашай сталіцы Вільнюса — горада, дзе пачалі вы свой высакародны шлях рэвалюцыянера і паэта і якому прысвяцілі нямала сардэчных радкоў, — сказаў літоўскі паэт Альгімантас Балтакіс. — Вашы вершы, якія раскрываюць цудоўную душу беларускага народа, глыбока інтэрнацыянальныя. Вось таму зразумелыя і любімыя яны ва ўсіх нашых рэспубліках.

...Перад юбілярам расце стос прывітальных адрасаў. Разам з цёплымі пажаданнямі і словамі высокай удзячнасці паэту, вучонаму, грамадскаму дзеячу за яго нястомную і натхнёную працу іх уручаюць ад імя пісьменніцкай арганізацыі Беларусі — паэт Васіль Вітка, ад дзеячаў культуры — міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч, ад імя прафсаюзаў рэспублікі — сакратар Белсаўпрофа А. П. Абуховіч.

Ад беларускіх вучоных, да слаўнай кагорты якіх належыць і акадэмік АН БССР Максім Танк, цёпла вітаў юбіляра прэзідэнт АН БССР М. А. Барысевіч, ад Беларускага тэатральнага таварыства — народная артыстка СССР Л. П. Александроўская, ад імя мастакоў рэспублікі — старшыня іх творчага саюза В. А. Грамыка, ад журналістаў — рэдактар газеты «Советская Белоруссия» А. К. Зінін, ад паліграфістаў, работнікаў выдавецтваў і кніжнага гандлю — намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю Р. А. Ткачук.

Вялікае камсамольскае дзякуй перадаў юбіляру першы сакратар ЦК ЛКСМБ У. І. Падрэз:

— Мы лічым вас, дарагі Яўген Іванавіч, камсамольскім паэтам не толькі таму, што вы былі ў падполлі інструктарам ЦК камсамола Заходняй Беларусі, але і таму, што ўсёй сваёй творчасцю вы выхоўваеце нашу моладзь у духу ленінскіх ідэалаў.

У. І. Падрэз паведаміў, што за шматгадовую і плённую дзейнасць па выхаванню моладзі ЦК ЛКСМБ узнагародзіў Максіма Танка Ганаровай граматай.

Слова — першаму намесніку начальніка Палітупраўлення ЧБВА генерал-маёру Б. І. Сярожанкіну. Ад імя воінаў акругі ён дзякуе М. Танку за натхнёныя вершы, якія нясуць у масы вялікія ленінскія ідэі. Вершы Танка ў час Вялікай Айчыннай вайны дапамагалі воінам Савецкай Арміі і партызанам у барацьбе з фашыстамі. Яны і цяпер вучаць воінаў любіць Радзіму, натхняюць іх на поспехі ў баявой і палітычнай падрыхтоўцы.

Ля мікрафона — міністр асветы БССР М. Г. Мінкевіч. Ён сказаў:

— Пяро нашага Максіма Танка дасягнула самай вялікай сілы. Яно набыло мудрую сталасць і філасофскую глыбіню, якія даюць магчымасць паэту ў дасканалай мастацкай форме ўвасобіць глыбокія думкі ў велічныя ідэалы нашых сучаснікаў. Яно заўсёды рэвалюцыйнае, партыйнае, патрыятычнае.

Дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Г. Ткачоў зачытаў вершаваны адрас юбіляру ад выдавецкага калектыву.

Нібы радаснае сонца ўварвалася ў залу, калі на сцэну падняліся самыя юныя чытачы і паклоннікі кніг Максіма Танка — пасланцы мінскіх школьнікаў. Звонка гучаць дзіцячыя галасы:

**Хаця Вам сёння шэсцьдзесят,—**
**мы гэтаму не верым.**
**Вас называе мой атрад**
**выдатным піянерам.**
**А я з таварышам сваім**
**хачу пайсці ў танкісты,**
**каб мірны, добры Танк Максім**
**спяваў пад небам чыстым!**

З новай сілай узнікае авацыя, калі Максіма Танка вітаюць будучыя афіцэры Савецкай Арміі — выхаванцы суворaўскага вучылішча. Яны ўручаюць юбіляру прывітальны адрас і знакі адрознення ганаровага суворaўца.

...Многія сотні тэлеграм прыйшлі ў адрас Максіма Танка з усіх канцоў краіны і з-за рубяжа. Яны — ад сутаварышаў па літаратурнай працы, ад зарубежных сяброў і перакладчыкаў вершаў паэта, ад рабочых і хлебаробаў Беларусі, далёкай Сібіры, Казахстана...

З Нью-Йорка, дзе праходзіць цяпер сесія Генеральнай Асамблеі ААН, прыслалі цёплыя прывітанні юбіляру міністр замежных спраў СССР А. А. Грамыка і дэлегацыя БССР. З Масквы тэлеграф прынёс прывітанне вядомых савецкіх паэтаў Міхаіла Дудзіна, Кайсына Куліева і Сяргея Арлова.

«З берагоў Каспія шлю майму сабрату Максіму Танку гарачыя віншаванні на сарака асноўных мовах майго роднага Дагестана», — тэлеграфаваў Расул Гамзатаў. З Балгарыі прыйшло прывітанне ад паэта і перакладчыка вершаў Танка Асена Боцева. Народнага паэта Беларусі сардэчна павіншаваў з 60-годдзем Савецкі камітэт абароны міру і прэзідыум Камітэта па Ленінскіх прэміях, выдатныя савецкія паэты Мікалай Ціханаў, Аляксей Суркоў і многія іншыя літаратары і грамадскія дзеячы краіны.

Доўга не змаўкае авацыя, калі на трыбуну выходзіць сам юбіляр. З вялікім хваляваннем звяртаецца ён да прысутных.

— Мне хочацца падзякаваць ЦК нашай партыі і ўраду за сапраўды бацькоўскія адносіны да нашага мастацтва, да літаратуры, да нас — пісьменнікаў, за тую ўвагу, якую мы адчуваем заўсёды. Я хачу выказаць сваю падзяку нашаму народу, які адарыў нас сваёй мудрасцю, каб мы маглі ярка і глыбока перадаваць яго думы і спадзяванні, ствараць такія каштоўнасці культуры, якія гаварылі б аб яго жыцці і подзвігах, аб нашай ленінскай дружбе з народамі-братамі, якой мы ўсім абавязаны, аб нашым велічным часе, асветленым сонцам рэвалюцыі.

...Завершана ўрачыстая частка яркага вечара, раскрыўшага глыбіню і жыватворнасць непарыўнай сувязі дзеячаў савецкай літаратуры з народам і партыяй. Працягам віншавання народнага паэта зямлі беларускай стаў канцэрт майстроў мастацтваў рэспублікі. У ім прагучалі вершы Максіма Танка, песні на яго словы і народныя мелодыі, якія акрыляюць музу паэта-камуніста, паэта-байца.

**А. КАПУСЦІН,**
**І. ПАДАРАЖАНСКІ.**
(БЕЛТА).

# ДЭВІЗ: САДРУЖНАСЦЬ ЛІТАРАТАРАЎ І КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ

*НА ПАРТЫЙНЫМ СХОДЗЕ У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ*

**«...больш актыўна прыцягваць для напісання сцэнарыяў таленавітых літаратараў, сістэматычна праводзіць сцэнарныя конкурсы, забяспечыць публікацыю лепшых твораў кінадраматургіі...»**

(З Пастановы ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі»).

**АДБЫЎСЯ адкрыты партыйны сход Саюза пісьменнікаў БССР, прысвечаны абмеркаванню Пастановы ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі», у якой вызначаны надзённыя задачы кінамастацтва і распрацаваны арганізацыйныя мерапрыемствы з мэтай удасканальвання дзейнасці гэтага важнага сродку камуністычнага выхавання працоўных. У рабоце сходу ўдзельнічаў творчы актыў Саюза кінематаграфістаў БССР.**

**З дакладам «Пастанова ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі» і задачы літаратараў» выступіў галоўны рэдактар студыі «Беларусьфільм» Алесь Асіпенка.**

**Скарочаны даклад і выступленні друкуюцца ніжэй.**

●

### Алесь АСІПЕНКА:

Дакладчык засяродзіў увагу на канкрэтнай дзейнасці беларускіх кінематаграфістаў, на ўдзеле літаратараў рэспублікі ў стварэнні фільмаў, на задачах і перспектыве развіцця мастацкага і дакументальнага кіно. Ён адзначыў ролю пісьменніцкай арганізацыі ў ажыццяўленні мэты, прадугледжанай Пастановай ЦК КПСС. Надзвычай вострая сцэнарная праблема, ад якой залежыць рэпертуарная палітыка нашай кінастудыі. Глядач павінен атрымліваць самыя розныя па тэматыцы, жанрах, стылявых асаблівасцях кінатворы. Гэта магчыма толькі тады, калі да ўдзелу ў стварэнні фільмаў будзе прыцягнуты шырокі аўтарскі актыў і, у першую чаргу, пісьменнікі. Без іх удзелу ў дзейнасці сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі, без іх зацікаўленасці ў поспехах беларускага кіно вырашыць гэту праблему немагчыма.

— Гаворка аб удзеле пісьменнікаў у кіно вядзецца даўно як у асяроддзі саміх пісьменнікаў, так і на студыі,— заўважыў дакладчык і назваў імёны беларускіх літаратараў, па творах якіх у свой час былі зняты лепшыя кінастужкі.

Плённа супрацоўнічалі са студыяй Аркадзь Маўзон («Канстанцін Заслонаў»), Аркадзь Куляшоў і Алесь Кучар («Чырвонае лісце»). Напісаныя імі літаратурныя сцэнарыі вызначаліся і добрым мастацкім густам і глыбінёй даследавання. Добра запомніўся цікавы фільм «Каханнем трэба даражыць». Сцэнарый да яго па аповесці Аляксея Кулакоўскага «Нявестка» напісаў драматург Андрэй Макаёнак. У якасці сцэнарыста неаднаразова выступаў Іван Шамякін. У кінапракатных арганізацыях краіны ёсць нямала карцін, прызначаных для маленькіх гледачоў. Усе добра ведаюць, што сцэнарыі для многіх з іх напісаў Кастусь Губарэвіч, які стала супрацоўнічае з рэжысёрам Л. Голубам. Апошні прыклад сведчыць пра надзвычай трывалую творчую садружнасць пісьменніка і рэжысёра. Іх плённая праца — важкі ўклад у распрацоўку дзіцячай тэматыкі.

Пісьменнікі Іван Новікаў і Іван Чыгрынаў разам з рэжысёрам В. Чацверыковым глыбока і грунтоўна распрацавалі ваенна-гістарычную тэму ў шасцісерыйным фільме «Руіны страляюць...», які робіць тэлевізійнае аб'яднанне студыі «Прамень».

А ці трэба пераконваць каго ў тым, як паспяхова супрацоўнічае з творчым аб'яднаннем «Летапіс» беларускі паэт Анатоль Вялюгін! Завязалі творчы кантакт з кінематографам пісьменнікі Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч і іншыя.

— Як бачыце, — гаворыць дакладчык, — набіраецца немалы спіс тых, хто ў розны час прыходзіў на студыю, аддаваў свае веды і літаратурны вопыт, сваё майстэрства беларускаму кінематографу. Пры гэтым, вядома, былі не толькі творчыя перамогі, здабыткі, але і няўдачы, а, значыцца, і звязаныя з імі творчыя і вытворчыя страты. Творчых няўдач было ў пісьменнікаў не больш, чым у нашых прафесійных сцэнарыстаў. Як ні дзіўна, але творчыя пралікі ў кіно падсцераглі двух нашых таленавітых пісьменнікаў Андрэя Макаёнка і Уладзіміра Караткевіча. Магчыма, тут ёсць свае заканамернасці. То перашкаджала «сцэнічнае бачанне» твора аўтарам, якое адрозніваецца ад экраннага бачання, то паэтычнае буйства характараў і залішняя аўтарская фантазія. Скажам, творы Ул. Караткевіча пры перакладзе на мову кіно атрымлівалі штучны злепак, які не мае нічога агульнага з арыгіналам.

Былі ў нашых пісьменнікаў няўдачы і іншага характару. Прыгадаем фільм «Усходні калідор» па сцэнарыі Алеся Кучара. Доўгая і цяжкая праца над сцэнарыем не была завершана (а гэта здаралася і з іншымі) па той прычыне, што ні ў аўтара, ні ў сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі не хапіла «духу», звычайнага творчага жадання і чалавечай цярплівасці давесці і сцэнарый да адпаведнай кандыцыі..

Такім чынам, назапашаны і станоўчы, і павучальны негатыўны вопыт. У адказ на Пастанову ЦК КПСС беларускія пісьменнікі павінны зрабіць усё, каб прыняць самы актыўны ўдзел у папаўненні сцэнарнага партфеля студыі «Беларусьфільм», маючы на ўвазе ў першую чаргу сучасную тэматыку.

Далей дакладчык прыгадаў тыя даўнія часы, калі беларускі кінематограф актыўна звяртаўся да твораў нацыянальнай літаратуры. Скажам, «Лясная быль» была пастаўлена Ю. Тарычам па сцэнарыі пісьменніка Міхася Чарота, які напісаў яго паводле сваёй аповесці «Свінапас». Гэты фільм і па сённяшні дзень уваходзіць у залаты фонд беларускага кінамастацтва. На такіх прыкладах сапраўднай творчай садружнасці з кінадзеячамі трэба вучыцца нашым сучасным літаратарам.

Гаворачы аб сучасным стане мастацкага кінематографа Беларусі, дакладчык звярнуў увагу на тое, што многія нашы карціны не адлюстроўваюць жывыя нацыянальныя рысы, што на іх можна ставіць фірменны знак любой студыі краіны. Круты паварот можа прыйсці толькі тады, калі за напісанне сцэнарыяў, як літаратурнай асновы фільма, па-сапраўднаму возьмуцца пісьменнікі. Трэба ўлічваць і тое, што на студыі няма стабільных кадраў кінадраматургаў. Таму неабходна, каб пісьменнікі далі «Беларусьфільму» цікавыя творы — арыгінальныя ці экранізацыі. Са многімі з іх ужо адбылася размова на прадмет такога супрацоўніцтва. Значная частка дала згоду. Гэта пераважная колькасць — пісьменнікі, якія прыйшлі ў літаратуру ў пяцідзесятых —пачатку шасцідзесятых гадоў: Іван Шамякін, Іван Чыгрынаў, Вера Вярба, Анатоль Вярцінскі, Валянцін Мыслівец, Георгій Шыловіч і іншыя. На жаль, да гэтага часу прапаноў працаваць для кіно яны не мелі.

Шмат цікавага могуць зрабіць для беларускага кінематографа такія пісьменнікі, як, напрыклад, Янка Сіпакоў, чые нарысы вызначаюцца глыбінёй даследавання рэчаіснасці, а ягоная паэзія — эмацыянальнай вобразнасцю. Апавяданні Вячаслава Адамчыка па сваёй сутнасці кінематаграфічныя, Анатоль Кудравец у творах закранае самыя надзённыя тэмы сучаснасці. Барыс Сачанка шмат у чым па-кінематографічнаму бачыць жыццё. Аркадзь Пінчук добра ведае ваенную тэматыку, армейскае жыццё нашых дзён...

Саюз пісьменнікаў БССР актыўна ўдзельнічае ў распрацоўцы праграм для школ, самым непасрэдным чынам клапоціцца пра тое, каб нашы выдавецтвы перавыдавалі значныя творы. Аднак здзіўляе, чаму яго не цікавяць пытанні экранізацыі! Амаль пяцьдзесят гадоў існуе беларускае кіно, але ніхто не клапаціўся аб тым, каб творы беларускіх класікаў сталі здабыткам кінаэкрана.

Не ведаю, ці трэба сёння экранізаваць «Пінскую шляхту» Дуніна-Марцінкевіча, але экранізаваць прозу і паэзію Якуба Коласа, Янкі Купалы, Змітрака Бядулі неабходна. А як узбагаціўся б наш кінематограф, калі б даў экраннае жыццё творам Кузьмы Чорнага, Міхася Гарэцкага, Платона Галавача, Міхася Лынькова, Кандрата Крапівы!..

Пакуль што ў галіне экранізацыі сучаснай беларускай літаратуры панавала «густаўшчына» і выпадковасць. Адказнасць за гэта перш за ўсё на кінастудыі. Але сёння абмеркаванне пытання «Пісьменнік і кіно» ідзе на партыйным сходзе Саюза пісьменнікаў БССР, таму правамерна крытыкаваць і недагляд гэтай арганізацыі. Трэба спадзявацца, што партыйны сход дасць шэраг рэкамендацый кіраўніцтву саюза, якое па-сур'ёзнаму зоймецца праблемай экранізацыі беларускіх твораў сумесна са студыяй і Дзяржаўным камітэтам Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі.

Вялікую ўвагу аддаў дакладчык тэлевізійнаму аб'яднанню, творы якога могуць глядзець адначасова больш ста мільёнаў чалавек. Аб'яднанне можа рабіць шмат карыснага ў стварэнні летапісу нашай рэспублікі як мастацкімі, так і дакументальнымі сродкамі. Аднак калі гаварыць пра сувязі з ім нашых пісьменнікаў, то тут хваліцца няма чым. Многія пісьменнікі нават не ведаюць пра існаванне гэтага аб'яднання, а тым больш пра яго тэматычныя планы. Мабыць, адсутнасць такой сувязі тлумачыцца тым, што тэлевізійнае аб'яднанне экранізуе ўсё, што яму хочацца, толькі не творы беларускіх аўтараў. Кіраўніцтву аб'яднання, яго рэдактуры трэба карэнным чынам перагледзець свае пазіцыі.

Заключная частка даклада была прысвечана дзейнасці творчага аб'яднання дакументальнага кіно «Летапіс». І тут варта пашыраць удзел пісьменнікаў у стварэнні хранікальна-дакументальных, навукова-папулярных і вучэбных фільмаў. Адзначалася, што пісьменнікі А. Вялюгін і М. Калачынскі даўно плённа працуюць у жанры кінапубліцыстыкі. Хацелася б, каб маладыя літаратары садружнасць з кінематографам пачыналі менавіта з гэтага аб'яднання. Дакументальны жанр — добрая школа!..

Далей Алесь Асіпенка падрабязна гаварыў аб перспектыўным тэматычным плане па 1978 год уключна. У ім вызначаны магістральныя тэмы. Асаблівая ўвага звернута на сучасную тэматыку, з улікам тых патрабаванняў, якія ставяцца ў Пастанове ЦК КПСС. Адзначыўшы, што план, які будзе, зразумела, узбагачацца, дазволіць пазбегнуць стыхійнасці і выпадковасці, якія так адмоўна адбіваліся на творчай дзейнасці студыі ў мінулым.

Намечаны і арганізацыйныя захады. У бліжэйшы час будзе ўпарадкавана структура сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі, будуць строга вызначаны абавязкі членаў сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі і рэдактараў, паднята іх персанальная адказнасць за якасць фільмаў. Кожны атрымае канкрэтнае даручэнне.

Павінна апраўдаць сябе стварэнне прафесійных сцэнарных груп, якія па задуме будуць складацца з прафесійных сцэнарыстаў, пісьменнікаў і журналістаў.

Прадугледжана таксама прафесійная вучоба аўтарскага актыву. Творчыя семінары, прагляд фільмаў, выступленні вядучых майстроў савецкага кіно, знаёмства з кінавытворчасцю на студыі — усё гэта будзе садзейнічаць паглыбленню прафесійных ведаў у галіне кінематографа, аваloданню майстэрствам экраннага мастацтва. Але ж самая важная і карысная вучоба — гэта, зразумела, практычная праца над сцэнарыем пры актыўнай дапамозе членаў калегіі, рэдактараў, рэжысёраў, усяго студыйнага калектыву.

Многа залежыць і ад планамернага супрацоўніцтва пісьменніцкай арганізацыі з Саюзам кінематаграфістаў БССР.

— Пастанова ЦК КПСС, — сказаў у заключэнне галоўны рэдактар студыі «Беларусьфільм» Алесь Асіпенка, — стварыла надзвычай спрыяльныя ўмовы для працы пісьменнікаў над важнымі актуальнымі тэмамі, так неабходнымі і сённяшняму кінематографу. Трэба толькі ад слоў перайсці да спраў. Хай кінасцэнарый зойме ў нашай пісьменніцкай арганізацыі такое ж месца, як любы літаратурны жанр! Тады поспехі нашы будуць больш адчувальнымі, а гэта значыць з'явіцца больш цікавых, высока-ідэйных твораў беларускага кінамастацтва.

Сцэнарый — агульны клопат і пісьменніка, і кінематаграфіста.

### Вячаслаў АДАМЧЫК:

— Спрэчкі вакол праблемы «Пісьменнік і кіно» вядуцца не першы год, аднак вынік пакуль ранейшы. Як казаў вялікі рускі байкапісец: «А воз и ныне там...»

Гэта добра, што мы часта збіраемся на сходы, спрабуем нешта растлумачыць адзін другому, пераканаць. Але кепска другое — мы не ўдзельнічаем у напісанні сцэнарыяў у той меры, якую ўсе лічым неабходнай і акрэсліваем даволі выразна тут, у нашым пісьменніцкім асяроддзі.

Хачу кінуць папрок у адрас кінастудыі: не пускаюць нас рэжысёры да сябе! Не, не ў прамым сэнсе. Менавіта — у творчым працэсе мы адчуваем нярэдка нейкае адчужэнне, непрынянцце нашых меркаванняў, творчых намераў. Матывіроўка адна — спецыфічныя асаблівасці кінематографа. Кажуць, што мы іх не разумеем...

Я лічу, што фільм у першую чаргу залежыць ад таго, як **думае** рэжысёр, як **падыходзіць** да вырашэння пастаўленай сцэнарыем задачы. Калі яго мастацкае мысленне суладнае з мысленнем пісьменніка, вынік атрымаецца неблагі. І наадварот. Калі кіно не «адкрые» для сябе, скажам, І. Мележа, не пранікнецца яго мастакоўскім светаўспрыманнем, не «ўжывецца» ў вобразы яго герояў — сур'ёзнай гаворкі пра стварэнне сапраўднага фільма тут не можа быць.

Відаць, і мы, пісьменнікі, і рэжысёры павінны ісці насустрач адзін аднаму, разам клапаціцца аб стане нашай кінавытворчасці. Ды толькі не на словах, а на справе. Трэба не гаварыць пра садружнасць, а сябраваць...

### Іосіф ВЕЙНЯРОВІЧ,

**рэжысёр аб'яднання «Летапіс», заслужаны дзеяч мастацтваў БССР:**

— Вельмі прыемна, што пісьменнікі, абмяркоўваючы Пастанову ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю кінематаграфіі», запрасілі на партыйны сход нас, работнікаў кінастудыі «Беларусьфільм». У свой час, да нашага сораму, калі мы абмяркоўвалі рашэнне партыі па пытаннях крытыкі, не здагадаліся зрабіць тое ж самае — запрасіць да сябе літаратараў.

Кінематаграфісты рэспублікі маюць пільную патрэбу ў дабраякасных сцэнарыях, якія могуць быць асновай для стварэння высокамастацкіх фільмаў. Што ж перашкаджае пісьменнікам працаваць у кіно? Я асабіста, як рэжысёр, падтрымліваю цесную сувязь з літаратарамі з 1925 года. Спачатку з К. Губарэвічам, пазней з Р. Няхаем, А. Вялюгіным, А. Астрэйкам, П. Кавалёвым, М. Калачынскім, Т. Хадкевічам, П. Прыходзькам, Ул. Юрэвічам — спіс можа быць доўгі. Перакананы, што ў іх ёсць глыбокія веды жыцця, вялікі вопыт, уменне, майстэрства, якія спрыяюць стварэнню значных кінатвораў. Яскравы прыклад — дзейнасць у жанры дакументальнага кіно паэта Анатоля Вялюгіна. Нагадаю, што гэта па яго сцэнарыях мной былі зроблены такія фільмы, як «Дарога без прывалу» (у садружнасці з Р. Няхаем), «Балада аб маці», «Генерал Пушча». Цяпер маю новы яго сцэнарый «Блакада» — пра партызанскі рух ва Ушацкім раёне Віцебскай вобласці...

Далей прамоўца гаворыць аб маладых кадрах, іх ролі ў вырашэнні агульнастудыйных праблем. Пісьменнікам не варта цурацца рэжысёраў, якія толькі што скончылі Інстытут кінематаграфіі, яшчэ не апрабаваных, тых, што не выявілі творчую індывідуальнасць. Прыклад з І. Дабралюбавым паказвае, што давер да маладога рэжысёра, які быў яму аказаны як з боку адміністрацыі, так і літаратараў, спрыяў яго прафесійнаму станаўленню. Уменне спалучаць свае жыццёвыя назіранні з тым, што табе прапануе сцэнарыст, — абавязковае для кінематаграфістаў. Такое ўменне часам дае плён непасрэдна на здымачнай пляцоўцы, у творчым працэсе. Нам трэба выхоўваць такое ўменне ў маладых студыйных работнікаў.

(Заканчэнне на стар. 4—5.)

**Сярод соцень малых і вялікіх культурных цэнтраў, якія нарадзіліся і выраслі на зямлі беларускай у гады Савецкай улады, бібліятэка імя Леніна — зорка першай велічыні.**

**Нядаўна мы адзначылі 50-гадовы юбілей Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна, а сёння разам з яе калектывам падзяляем вялікую радасць — узнагароджанне ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.**

**Наша газета падрабязна пісала ўжо пра адказную і плённую працу — навуковую, метадычную, арганізацыйную, — якую паспяхова вядуць яе супрацоўнікі. Сёння мы прадастаўляем старонкі «Літаратуры і мастацтва» старэйшаму работніку бібліятэкі, пісьменніку, журналістам. Іх успаміны, замалёўкі, нататкі наблізяць да нас гады, калі бібліятэка толькі пачыналася, пазнаёмяць з людзьмі, якія там працуюць.**

Юлія БІБІЛА

# ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ...

*З УСПАМІНАЎ*

**1921** ГОД. Я настаўнічаю ў Бабруйску. Аднойчы мяне сустракае загадчык гарадской бібліятэкі Іосіф Бенцыянавіч Сіманоўскі, чалавек, улюбёны ў кнігу, наогул апантаны кніжнік, і кажа: «Юля, мне прапаноўваюць пасаду загадчыка універсітэцкай бібліятэкі ў Мінску, паедзем, вы ж цікавіцеся краязнаўствам, дапаможаце арганізаваць краязнаўчы аддзел у бібліятэцы».

Так, справа была мне знаёмая — увосень 1920 года я прыняла ўдзел у арганізацыі такога аддзела ў Бабруйскай бібліятэцы. Як было не спакусіцца бліскучымі перспектывамі. І вось з верасня 1921 года я ўжо сядзела сярод бібліятэчных паліц у доме на рагу цяперашняй вуліцы Кірава (тады Магазіннай, а затым Універсітэцкай) і Чырвонаармейскай. Неўзабаве мы перасяліліся ў больш зручнае памяшканне — так званы «Юбілейны» дом на Захар'еўскай вуліцы (цяпер Дом мастацтваў). Страшнавата было перабірацца на зіму ў неабжыты, без ацяплення будынак. Дырэктар павёў мяне на другі паверх і сказаў, што гэта вялікая зала — месца краязнаўчага аддзела. Пасярэдзіне залы стаяла печка-буржуйка з выгінастаю трубой. Як жа яна цешыла нас і нашых чытачоў! За фанернаю перагародкай змяшчаўся пакоік дырэктара, застаўлены шафамі, завалены газетамі і кнігамі. што не прасунуцца. Праўда, дырэктар туды рэдка калі і забягаў.

У зале змяшчалася таксама чытальня для навуковых працаўнікоў з выстаўкай новых атрыманняў.

У аддзеле па кроплі збіраліся выданні, а таксама матэрыялы, што датычылі так званага Паўночна-Заходняга краю з губернямі, якія ўваходзілі ў яго склад, незалежна ад мовы, часу і месца выдання. Іх знаходзілі ў фондах бібліятэкі, у новых атрыманнях. Часам вандроўкі ў гарады Беларусі (Мсціслаў, Клімавічы, Полацк) папаўнялі нашы фонды. Нямала рэдкіх беларускіх выданняў прыносілі чытачы бібліятэкі.

У дублетных фондах Масквы і Ленінграда працаваў наш супрацоўнік. Адтуль бібліятэка атрымлівала каштоўныя выданні.

Шмат увагі аддаваў камплектаванню аддзела І. Сіманоўскі. У яго было трапнае вока на цікавыя і каштоўныя кнігі. Часта пачынаў ён свой неафіцыйны працоўны дзень, корпаючыся ў пыльных напластаваннях падвальных сховішчаў. І вось запылены, але трыумфальны, саззяючым тварам, нясе ў аддзел якую-небудзь знаходку.

Добраахвотнікі дапамагалі ў камплектаванні аддзела не толькі сваімі дарамі, але і каштоўнымі падказкамі. Нельга не ўспомніць Я. Дылы, зацікаўленага прыхільніка бібліятэкі. Ён шмат дапамагаў мне арыентавацца ў моры краязнаўчай літаратуры (можа гэтага ён і сам не ўсведамляў). Цікавіўся ўсімі здабыткамі нашай культуры. З ім вельмі цікава было пагутарыць...

Як прамінуць нашага слаўнага баяна, незабыўнага Янку Купалу. Ён заўсёды быў жаданым госцем нашым, з ахвотаю дзяліўся сваімі ведамі пра кнігі, пра аўтараў беларускіх выданняў, пра свае ненапісаныя творы. Я. Купала прынёс і аддаў мне дзве важкія пачкі сваіх рукапісаў і сказаў: «Гэта мае рукапісы. У вас яны лепей захаваюцца».

Без хвалявання не магу ўспомніць цёплы ліст Я. Купалы да мяне ў Саратаў у час вайны. У мясцовай газеце «Коммунист» была надрукавана рэцэнзія на зборнік твораў Я. Купалы на рускай мове. Я паслала яму выразку, напісаўшы толькі: «Бібліяграфічнае прывітанне з пратвораў Волгі» — без подпісу. На адрас Саратаўскай дзяржаўнай бібліятэкі атрымала такі ліст: «Мілая Юлія Іосіфаўна! Я надта ўжо суцешыўся, атрымаўшы вашу запісачку з выразкай. Адразу дагадаўся, што гэта пісала ваша рука. З нецярпеннем буду чакаць вестачкі больш падробнай аб вашым цяперашнім жыцці-быцці. Ітак, чакаю. Шчыра вам адданы Янка Купала».

...Услед за Я. Купалам сталі прыносіць свае рукапісы і іншыя пісьменнікі: М. Грамыка, Ц. Гартны...

Успамінаецца яшчэ адзін зацікаўлены прыхільнік бібліятэкі, які аддаваў ёй шмат увагі і дапамагаў, чым мог. Гэта рэктар БДУ У. Пічэта. Ён часта наведваў наш аддзел. Ветлівы, далікатны. Умеў і любіў пажартаваць.

З цёплым пачуццём хочацца ўспомніць А. Р. Чарвякова, старшыню ЦВК БССР. Яму быў добра вядомы наш няўрымслівы дырэктар, але ён ведаў і іншых працаўнікоў. Так, у 1936 г., калі наведаў нашу рэспубліку старшыня ЦВК Башкірскай АССР, А. Р. Чарвякоў сам прывёў яго ў бібліятэку. Трэба было бачыць, з якім веданнем справы ён расказваў госцю пра задачы аддзела; а мяне адрэкамендаваў як «самую старую» працаўніцу бібліятэкі.

Так, у нас было шмат сяброў. Сцены бібліятэкі бачылі людзей розных спецыяльнасцей. Работнікі культуры, мастацтва, пісьменнікі, студэнты. Стаіць перад вачыма імклівая постаць незабыўнага У. Галубка, музыказнаўцы Ю. Дрэйзіна, рэжысёра Е. Міровіча, паэтаў Я. Пушчы, А. Салагуба, У. Жылкі.

Разам з упарадкаваннем і камплектаваннем фондаў, утварэннем каталогаў неўзабаве паўстала пытанне пра наладжванне бібліяграфічнай справы.

Шмат увагі надавалася бібліяграфіі беларускай літаратуры. Асабліва багатай была персаналія Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, З. Бядулі, Цёткі.

Займаліся мы таксама бібліяграфіяй гісторыі беларускага тэатра. Цікавілі паведамленні пра беларус-

# З УЗНАГАРОДАЙ, ЛЕНІНКА!

Адам МАЛЬДЗІС

**Н**А ТЫМ ТЫДНІ газеты паведамілі: у сувязі з 50-годдзем і за заслугі ў камуністычным выхаванні працоўных Дзяржаўная бібліятэка БССР імя Леніна, наша «Ленінка», як мы яе любоўна называем, узнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Гэтая навіна радасная не толькі для супрацоўнікаў бібліятэкі, але і ўсіх нас, 42 тысяч яе чытачоў, да ліку якіх я таксама маю гонар належаць з 1951 года.

Я не сумняваюся, што калі-небудзь будзе напісана найцікавейшая кніга «Роля Дзяржаўнай бібліятэкі БССР у развіцці беларускай культуры». Бо роля гэтая агромністая. Наведвальнікамі бібліятэкі былі нашы карыфеі. Янка Купала і Кузьма Чорны. На багатых кніжных і рукапісных матэрыялах бібліятэкі напісаны дзесяткі дысертацый, абароненых у сталіцы нашай рэспублікі. Кожны год сюды з хваляваннем у сэрцы прыходзяць першакурснікі, якіх чакае пяцімільённы кніжны фонд. І кожны год з бібліятэкай развітваюцца ўдзячныя ёй выпускнікі. Развітваюцца ненадоўга: адны вернуцца сюды аспірантамі, навуковымі супрацоўнікамі, другія, працуючы ў вёсцы, будуць карыстацца паслугамі яе міжбібліятэчнага абанемента, трэція прынясуць у падарунак свае кнігі, старонкі якіх пісаліся ў тых жа ўтульных залах, абмяркоўваліся з сябрамі ў «кулуарах». Як вакол магніта дзейнічае магнітнае поле, так вакол нашай «Ленінкі» існуе магутнае інтэлектуальнае поле. Пад яго ўздзеяннем добра думаецца і плённа пішацца.

Калі я падымаюся па стаптаных прыступках галоўнай беларускай бібліятэкі, міжвольна думаю аб яе нялёгкім, працавітым пяцідзесяцігадовым шляху. Нялёгкім, бо арганізавалася яна амаль на голым месцы. У яе не было папярэдніц з шматвекавой гісторыяй, як у суседніх рэспубліках. Энтузіясты бібліятэкі на чале са знакамітым бібліяфілам Іосіфам Бенцыянавічам Сіманоўскім літаральна па драбніцы збіралі скарбы роднай культуры — экземпляр «Літоўскага статута» XVI стагоддзя і «Апокрысіс» Х. Філалета, прыжыццёвыя выданні Францішка Багушэвіча і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, рукапісы К. Каганца і Ц. Гартнага. Потым, у час акупацыі, фашысцкія вандалы знішчылі нацыянальныя багацці, вывезлі найбольш каштоўнае ў Германію. Мы і сёння не ведаем, дзе той унікальны экземпляр «Статута» 1588 года, дзе рэдкія кнігі пра Айчынную вайну 1812 года, што паходзілі з барысаўскага збору Каладзеева. І толькі бескарыслівая дапамога бібліятэк іншых рэспублік дазволіла ўжо ў 1948 годзе пераўзыйсці даваенны ўзровень. Многія беларускія кніжкі паступілі ў Мінск са сховішчаў Ленінграда і Ташкента, Ашхабада і Ерэвана. Сёння мы бярэм іх у рукі як жывое сведчанне братняй дружбы народаў СССР.

І яшчэ адно пачуццё ахоплівае мяне, калі я заходжу ў «Ленінку», — пачуццё глыбокай павагі і ўдзячнасці яе супрацоўнікам. Што б рабілі беларускія літаратуразнаўцы, калі б амаль не трыццаць бібліяграфічных даведнікаў, складзеных заслужаным дзеячом культуры БССР Нінай Барысаўнай Ватацы?! Калі б не дапаможнікі, што выйшлі з-пад пяра Ю. І. Бібіла, М. А. Васілеўскай, А. А. Сакольчыка і іншых нестараў нашай бібліяграфіі?! Калі б не кваліфікаваная парада і дапамога супрацоўніц аддзела беларускай літаратуры і бібліяграфіі, дзе назапашаны бясцэнныя багацці па гісторыі нашага народа, яго культуры, яго пісьменства?! Хочацца таксама сказаць шчырае слова падзякі работнікам Кніжнай палаты БССР. Не ведаю, як для каго, але для мяне дужа карысныя яе выданні — «Летапіс друку БССР», «Новыя кнігі БССР» і інш. Яны дапамагаюць хутка арыентавацца ў бясконцым моры кніжнай, часопіснай і газетнай інфармацыі, паведамляюць, дзе і што было сказана пра Беларусь ва ўсесаюзным і зарубежным друку. А гэта дае значную эканомію часу, дазваляе заўсёды быць у курсе спраў па выбраным табой прадмеце даследавання.

А яшчэ, заходзячы ў «Ленінку», хочацца пажадаць яе калектыву, каб зніклі тыя дробныя «агрэхі», якія яшчэ часам засмучаюць нас, чытачоў. Каб радзей мы атрымлівалі паведамленні, што той або іншай заказанай намі кнігі, асабліва замежнай, «не аказалася на месцы». Каб шырэй разгарнуў збіральніцкую і папулярызатарскую дзейнасць аддзел рэдкай кнігі. Каб у аддзеле беларускай літаратуры і бібліяграфіі былі з цягам часу сабраны — хаця ў фотакопіях — усе беларускія выданні ўсіх часоў. Я не хачу, каб гэтыя мае пажаданні прагучалі дысанансам у агульным хоры юбілейных пахвал. Высокая ўзнагарода, безумоўна, абавязвае працаваць яшчэ лепш, з гонарам трымаць пальму першынства сярод беларускіх бібліятэк. Не забываць, што «на пяты» актыўна наступаюць больш маладыя бібліятэкі рэспублікі, асабліва энергічны калектыў Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР імя Я. Коласа.

З залатым юбілеем цябе, «Ленінка», з заслужанай высокай узнагародай! Спору табе ў пачэснай працы, наш родны доме!

# ТОЛЬКІ ТРОЕ...

## І ЧАСЦІНКА ЯЕ ПРАЦЫ...

Вось ужо больш як дваццаць гадоў працуе ў Ленінскай бібліятэцы Вера Іванаўна Партнова. Пад яе «апекай» — каля трох тысяч аспірантаў, кандыдатаў і дактароў навук, выкладчыкаў навучальных устаноў, чытачоў з вышэйшай адукацыяй. Вера Іванаўна — загадчыца сектара навуковых чытальных залаў.

Для сур'ёзнай прадукцыйнай работы з кнігай неабходны адпаведныя ўмовы.

— Стараемся рабіць усё, каб чытачы прыходзілі сюды як дамоў, і ў той жа час траплялі б у атмасферу творчую, рабочую, — гаворыць Вера Іванаўна. — Да кніг у нас свабодны доступ. Я працую тут ужо даўно, і чытачы ў нас пастаянныя, таму мы добра ведаем адзін аднаго.

Вера Іванаўна ведае, хто над якой тэмай працуе, і загадзя рыхтуе пэўную літаратуру. Чытачу не прыходзіцца марнаваць каштоўны час.

Тут, у вялізным рабочым кабінеце, кожны дзень нараджаецца чарговая старонка дысертацыі, дыплома, артыкула, кнігі.

— Вось, напрыклад, М. Куняўскі, — расказвае Вера Іванаўна, — тут, у нас, напісаў кандыдацкую, абараніўся, зараз працуе над доктарскай. В. Молакаў — таксама. Дактары эканамічных навук І. Басманаў і С. Аўсянікаў, доктар філасофіі Г. Давідзюк, доктар гістарычных навук прафесар Г. Ліфшыц і многія, многія іншыя — ці пералічыш усіх! — рыхтавалі ў нас свае дысертацыі.

У поспеху гэтых вучоных ёсць часцінка працы і В. Партновай. Яна не адзін раз была ўзнагароджана Ганаровымі граматамі Міністэрстваў культуры СССР і БССР, а некалькі гадоў назад Вера Іванаўна атрымала значок выдатніка бібліятэчнай працы. Апошняя з яе ўзнагарод — Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета БССР.

Упэўнены, — не апошняя.

**М. ЖАДАЎ.**

## У ПРАСТОРАХ КНІЖНАГА МОРА

Кніжны фонд павінен пастаянна папаўняцца — гэта «залаты» закон бібліятэчнай працы. Сектарам цякучага камплектавання ў Ленінскай бібліятэцы загадвае Ганна Філіпаўна Мазжухіна. Ад яе, ад таго, наколькі дакладна і аператыўна будзе яна арыентавацца ў прасторах кніжнага мора, у многім залежыць, як хутка атрымае чытач неабходнае яму выданне. І ці атрымае наогул. Каб чытач меў усю неабходную яму літаратуру, каб нічога не «ўпусціць», патрэбна пастаянна сачыць за бібліяграфіяй, за навінкамі кніжнага рынку. Але не толькі гэтым займаецца Г. Мазжухіна. Сумарны ўлік паступленняў, бягучая работа



Гэты здымак захаваўся з далёкага, 1926 года. Ля дома, дзе мясцілася тады бібліятэка (цяпер тут Дом мастацтваў) сабраўся нешматлікі калектыў работнікаў. На здымку: другі справа—М. Улашчык, першы дырэктар Кніжнай палаты БССР, зараз вядомы гісторык, шостая злева — аўтар успамінаў Ю. Бібіла, першы загадчык аддзела беларускай літаратуры і бібліяграфіі.

кія вечарыны (у Вільні, Пецярбурзе і г. д.), а ў савецкі час—у самых глухіх кутках. Утварылася цікавая картатэка пра першыя крокі і станаўленне тэатральнай справы на Беларусі.

У першыя гады Савецкай улады не толькі моладзі, але і людзям сталага веку даводзілася брацца за працу, пра якую мелі вельмі прыблізнае ўяўленне. Трэба! А калі трэба, то і навучыцца трэба. Хто з бібліятэкараў меў спецыяльную бібліятэчную адукацыю? Даводзілася вучыцца на хаду. Для мяне важна было не толькі авалодаць тэхнікай, але і ўмець добра арыентавацца ў краязнаўчай літаратуры. Дапамагалі кнігі. Дапамагалі чытачы.

Успамінаецца рэжысёр Е. Міровіч, калі ён ставіў п'есы «Кастусь Каліноўскі», «Машэка». Колькі мне давялося прагледзець розных матэрыялаў! А пасівелы рэжысёр з маладым запалам натхнёна маляваў перада мною сцэны будучага спектакля. Гэта была цікавая ўзаемадапамога.

У 20-я гады Дзяржаўная бібліятэка БССР з'яўлялася адзіным асяродкам, дзе спецыяльна збіраліся і апрацоўваліся матэрыялы для вывучэння краю. Пра гэта ведалі і працаўнікі культуры, і дзяржаўныя ўстановы. А таму, калі патрабавалася дзе-небудзь паказаць літаратуру пра Беларусь, даручалася гэта бібліятэцы.

Успамінаецца некалькі такіх выхадаў «у людзі», у якіх мне давялося прымаць удзел.

У лютым 1927 года ў Маскве адбывалася трэцяя сесія ЦВК СССР, дзе была заслухана справаздача ўрада БССР. Бібліятэцы даручана было наладзіць выстаўку беларускага друку. Выстаўка змяшчалася ў Георгіеўскай зале Крамлёўскага палаца. Успамінаю пажылога мастака, які з пачуццём гаварыў: «Я люблю сваю краіну, і пакуль жыву, хацеў бы хоць чым-небудзь быць ёй карысны. Я зраблю падарожжа па Беларусі і намалюю краявіды—можа мая праца прыдасца». Гэта быў В. К. Бялыніцкі-Біруля.

У студзені 1931 года Масква знаёмілася з дасягненнямі сацыялістычнага будаўніцтва БССР. Выстаўка была наладжана ў фае Політэхнічнага музея пад нязвыклай назвай «Сэмпэр антэ» («Заўсёды наперад»). Апроч мяне выстаўку абслугоўвалі прадстаўнікі ад Наркамзема і Наркамасветы.

Беларуская дэлегацыя была на прыёме ў М. І. Калініна, сярод іх была і я. Прадстаўнік беларускай дэлегацыі вітаў М. І. Калініна, які ў час прывітання паводзіў сябе неяк неспакойна (шмат было славаслоўя). Нарэшце, ён не вытрымаў і сказаў: «Вядома, мы з вамі рады спаткацца, але давайце гаварыць аб тым, што ў каго баліць».

Першы з'езд пісьменнікаў краіны (1934 г.). Парк культуры і адпачынку імя М. Горкага. У павільёнах ладзілася выстаўка літаратуры народаў Саюза. Кнігі беларускіх пісьменнікаў—і старэйшых, і маладых — уважліва падбіраліся, і яны так спадабаліся, што кіраўніцтва саюза нават хацела пакінуць іх у бібліятэцы пісьменнікаў...

Ад гэтага падарожжа засталіся ў памяці дываны кветак, якія запаўнялі парк. Тонкі водар кружыў галаву. Кветкі, кветкі... У такой колькасці мы бачылі іх упершыню...

---

па камплектаванні, бібліяграфічныя справы—вось кола яе абавязкаў. Прычым, неабходна не проста атрымаць кнігу, але і ацаніць яе каштоўнасць для чытача, бо зусім не ўсялякае новае выданне павінна трапляць у фонд. І з гэтымі абавязкамі Ганна Філіпаўна спраўляецца. Спраўляецца добра.

Кожны майстар сваёй справы павінен мець вучняў —і ў Ганны Філіпаўны яны ёсць. Побач з ёй працуе Люда Васіленка, якая прыйшла ў бібліятэку адразу пасля дзесяцігодкі. Пакуль што яна—памочнік бібліёграфа, але ў яе ўсё яшчэ наперадзе.

— Вельмі здольная дзяўчына, — гаворыць пра яе Г. Мазжухіна.

Гэта, напэўна, так. У добрых настаўнікаў дрэнных вучняў не бывае...

**К. МІХАЙЛАЎ.**

## «НА ПРАЦЯГУ УСЯГО ЖЫЦЦЯ...»

Сюды звоняць няспынна. Штодзень аддзел даведачна-бібліяграфічнай і інфармацыйнай работы дае 120—130 розных даведак. Вядома, бываюць свае гадзіны пік... Летам, напрыклад, у аддзеле зацішней. Неспакойны народ — студэнты, навуковыя работнікі — адпачываюць. А вось з кастрычніка —лістапада і па май—чэрвень—тут ужо трымайся. Цэлую змену на нагах, і ўсё бягом. Стаіць чарга...

Нядаўна Ларыса Арсёнава рыхтавала даведку па заяўцы кінастудыі «Беларусьфільм». Патрэбна была літаратура пра хіпі. Давялося самой прачытаць многа перыядычных выданняў і розных іншых крыніц, каб даць грунтоўны адказ. А то папрасілі падрыхтаваць даведку пра міжнародныя аэрапорты. І зноў пошукі. І так штодзень. Кожны званок, кожнае пытанне—гэта цэлы новы свет.

— У нашай справе важна не быць механічным выканаўцам, — сур'ёзна зазначае Ларыса.—Абавязкова трэба ведаць, чаму і дзеля чаго патрэбна тая ці іншая даведка: для дыпломнай работы ці артыкула, для дысертацыі ці ля выступлення на навуковай канферэнцыі. Толькі тады можна падрыхтаваць сапраўды кваліфікаваную даведку.

У галоўнай бібліятэцы рэспублікі зараз трэцяя частка калектыву—моладзь. А Ларыса—сакратар камітэта камсамола. Нядаўна прапанавала яна на камітэце камсамола правесці вечар «Наша праца патрэбна людзям». Прысутнічала звыш 80 маладых бібліятэкараў. Запрошаны былі і студэнты бібліятэчнага факультэта педінстытута. Аб сваёй прафесіі гаварылі і ветэраны, і моладзь. Кульмінацыяй вечара было пасвячэнне ў бібліятэкары. Вынеслі сцяг бібліятэкі. Клятву бібліятэкара ўсхвалявана чытала Ніна Барысаўна Ватацы. А дзяўчаты-навічкі сцішана паўтаралі за ёю словы клятвы: «...абяцаю на працягу ўсяго свайго жыцця нічым не запляміць гордае слова «бібліятэкар», сумленна служыць людзям...»

Ларыса Арсёнава — не навічок. Але і яна ў думках паўтарала гэтую клятву...

**Я. ІВАНОВА.**

---

ЧАЛАВЕКУ ГАВОРАЦЬ ДЗЯКУЙ

# І СТАЛА Ў КЛУБЕ ХАРАША...

БЫВАЕ, чалавек адразу і назаўсёды знаходзіць сваю дарогу. І ніколі аб гэтым не шкадуе. Калі Ірына Русаковіч скончыла дзесяцігодку, ёй раілі:

— Паступай у інстытут. Ты ж добра вучылася...

Але дзяўчына вырашыла інакш.

— Пакуль нікуды не паеду. Папрацую ў родным калгасе «Сямігодка», а там бачна будзе.

І яна заўзята бралася за любую справу, выконвала яе добрасумленна. Змалку навучыўшыся ад маці, любіла сялянскую работу, захаплялася літаратурай. Ды не толькі ў працы, але і ў песнях, танцах была першай.

Ніхто не сумняваўся ў здольнасцях Ірыны. І калі прапанавалі працаваць у сельскім клубе, згадзілася. І, як заўсёды, горача ўзялася за работу. Вядома, не хапала вопыту, належных ведаў. Старалася вучыцца ад старэйшых сяброўак. Пабывала ў многіх клубах, бібліятэках, цікавілася іхнімі справамі, усё лепшае старалася выкарыстаць для сябе.

Работы было — непачаты край. Кніг амаль ніхто не чытаў. Не працавалі гурткі мастацкай самадзейнасці.

— Няма ў нас моладзі, — скардзіліся яе папярэднікі. — А хто сюды пойдзе...

— Пойдуць, —упэўнена гаварыла Ірына Русаковіч і пачала шукаць ключы да людскіх сэрцаў. Пагутарыла з маладымі настаўнікамі, калгаснікамі. Усё часцей пачалі ў клубе гучаць песні, праз вокны ў наваколле разлятацца гукі гармоніка.

«Сёння адбудзецца канцэрт мастацкай самадзейнасці» — чыталі хлебаробы аб'яву і здзіўляліся. Хто ж будзе выступаць?

Пасля работы ў клубе сабралася паўнютка народу. Калі адкрылася заслона і палілася задушэўная звонкая песня, то людзі ўбачылі, што на сцэне былі радавыя хлебаробы, маладыя і пажылыя калгаснікі, механізатары, настаўнікі, салістаў змянілі танцоры. Гледачы разводзілі рукамі:

— Хто мог падумаць, што ў нас свае «артысты».

Ішоў час. Каля дзесяці год Ірына Русаковіч загадвае сельскім клубам. За гэты перыяд удзельнікі мастацкай самадзейнасці Кашырскага сельскага клуба далі сотні канцэртаў. І ўсе яны, як у аднавяскоўцаў, так і ў гледачоў суседніх вёсак карысталіся нязменным поспехам. Яшчэ б! Канцэртная праграма пастаянна абнаўляецца, складаецца цікава, змястоўна.

Перад пачаткам канцэртаў, як правіла, выступаюць члены лектарскай групы.

У клубе пастаянна абнаўляецца наглядная агітацыя. Прыцягваюць увагу прыгожа аформленыя стэнды, кніжныя выстаўкі «СССР — самая дэмакратычная краіна ў свеце», «Квітней, мая рэспубліка». Наведвальнікі спыняюцца каля стэнда: «Алкаголь — вораг здароўя».

Кнігі цяпер чытае амаль кожны хлебароб.

Як старшыня селькома Ірына Русаковіч словам і справай змагаецца за ўзорны парадак у вёсцы. Тут не заўважыш п'янага чалавека на рабоце, у грамадскім месцы, хаця вёска самая аддаленая ад райцэнтра.

— Мы самі навялі парадак, — расказвае яна. — А дапамагалі нам у гэтым члены селькома, дэпутаты, камуністы, актывісты. Нікому не давалі паблажкі. Кожны выпадак абмяркоўвалі, папярэджвалі. І перамаглі.

Да Ірыны Іосіфаўны ў клуб ідуць не толькі па кнігі або пачытаць свежую газету, часопіс, але і па добрую параду, дапамогу. І яна заўсёды знаходзіць час пагутарыць з людзьмі, дапамагае пажылым калгаснікам афармляць дакументы на пенсію, выпісваць лесаматэрыялы на рамонт жылля.

— Гэта мой абавязак, — зазначае Ірына Іосіфаўна.

Узначальваючы сельскі камітэт, яна арганізавала і правяла немалую работу па добраўпарадкаванні вёскі, рамонце дамоў калгаснікаў, азеляненні вуліцы.

Ірына Іосіфаўна ўмее цаніць вольны час. Нядаўна яна скончыла Гродзенскае культасветвучылішча.

**Я. МАКОЎСКІ.**
Іўеўскі раён.

---

# «Я—КРЭПАСЦЬ. ВЯДЗЁМ БОЙ...»





На гэтым тыдні здымачная група аб'яднання «Летапіс» студыі «Беларусьфільм» закончыла работу над новай шырокаэкраннай кінастужкай аб удзельніках легендарнай абароны Брэсцкай крэпасці (аўтары сцэнарыя А. Вялюгін, І. Пікман, аператар Ю. Ялхоў, рэжысёр І. Пікман).

У ходзе здымак беларускія дакументалісты знайшлі новыя звесткі пра некаторых герояў. Так, інжынер-дзевіятар Ленінградскага марскога порту Іван Іванавіч Долатаў, які ў тую грозную пару абараняў Брэсцкую крэпасць, падзяліўся сваімі ўспамінамі аб палкавым камісары Я. Фаміне, аб капітане І. Зубачове, аб тым, як і кім быў напісаны загад № 1, аб стварэнні штаба, аб арганізаванай абароне.

Пра свайго сына расказала маці радыста крэпасці Гаўрылы Макатрава. Гэты эпізод у фільме — адзін з самых эмацыянальных.

Шмат цікавага паведаміў Міхаіл Іванавіч Мяснікоў, які сустрэў ворага на першых метрах роднай зямлі, прайшоў шлях ад радавога пагранічніка да палкоўніка. За ўдзел у вызваленні Севастопаля ён атрымаў званне Героя Савецкага Саюза.

У фільме выкарыстаны матэрыялы Дзяржаўнага фільмафонда СССР, а таксама нямецкія часопісы, ваенныя зводкі і данясенні таго часу.

Праз гэтыя штрыхі, праз асобныя эпізоды вырысоўваецца вобраз абаронцаў крэпасці, тых, хто «загінуў, але з крэпасці не выйшаў».

Кінастужка «Я — крэпасць. Вядзём бой...» неўзабаве выйдзе на экран.

На здымках — рэжысёр І. Пікман і палкоўнік М. Мяснікоў; кінадакументалісты слухаюць расказ былога ўдзельніка абароны Брэсцкай крэпасці І. Долатава (першы справа). Побач з ім кансультант фільма, навуковы супрацоўнік музея абароны цытадэлі Т. Хотцава.

Тэкст і фота
У. ЖЫЛЕВІЧА.

# У КРАІНЕ МАЛЕНСТВА

КАЛІ СТАЛЫ пісьменнік звяртаецца ў сваёй творчасці да ўласнага маленства ці юнацтва, гэта можна вытлумачыць не толькі звычайным для кожнага аўтара жаданнем паведаміць маладым сучаснікам тое, чаго яны не ведаюць, не перажылі, але і імкненнем разабрацца ў вытоках свайго творчага «я», высветліць яго карані, прасачыць сталенне індывідуальнасці. Жанр аўтабіяграфічнай аповесці трывала ўсталяваўся і ў беларускай літаратуры.

Алена Васілевіч, вядомая беларуская пісьменніца, звярнулася ў апошніх аповесцях да пачатку жыцця свайго пакалення, якое прайшло разам з нашай краінай яе паўвекавы шлях. І гэты імклівы поступ маладых будаўнікоў маладой краіны — галоўны лейтматыў аповесцей аб Ганьцы, сабраных у тэтралогію «Пачакай, затрымайся...».

Не па змесце, не па форме, а хутчэй, па духу, па сіле ўздзеяння можна было б параўнаць тэтралогію Алены Васілевіч з першай часткай аўтабіяграфічнай трылогіі Аляксандры Бруштэйн, з аповесцю «Як я была маленькая» Веры Інбер. Усе тры пісьменніцы дакладна і эмацыянальна перадалі псіхалогію сваіх герaінь, тое агульнае, чым вызначаюцца дзяўчынкі пэўнага ўзросту, у той жа час набываючы рысы індывідуальныя, выпрацаваныя адпаведным асяроддзем і часам.

Ганька з ранняга дзяцінства ўвайшла ў свет вялікіх эстэтычных каштоўнасцей: беларускай прыроды і класічнай паэзіі. Адзін раздзел з аповесці «Расці, Ганька» называецца «Прыязджаў Колас...» У ім маці чытае вершы Коласа і як пра найвялікшую падзею ў сваім жыцці расказвае Ганьцы аб тым, як у іх вёску прыязджаў паэт і чытаў «пра раніцу ў нядзельку, пра жніво, пра падгляд пчол... Чытаў пра ўсё такое знаёмае — і сумнае, і вясёлае, што жанкі толькі божкаліся і дзівіліся...» А маленькай Ганьцы, якая ўжо любіць слухаць і сама ведае многа вершаў, цяжка нават уявіць сабе «паэта жывым звычайным чалавекам».

Пазней, калі Ганька ўжо чытае сама, ёй трапляе ў рукі кніга «На прасторах жыцця». Дзяўчынка ў захапленні ад яе. «Ганька рвецца далей за Аленкай і Сцёпкам. Яна і сама падобна на Аленку. І яна гэтак сама, як і Аленка са сваіх Заборцаў, на восень і на зіму едзе вучыцца са свае Зялёнае Дубровы на Урэчча. Толькі ў яе няма такога Сцёпкі Баруты...» І доўга яшчэ, на працягу ўсяго юнацтва, Ганька параўноўвае сябе з Аленкай, а сваіх сяброў, каханага — са Сцёпкам. З любімымі вобразамі прайшла Ганька па жыцці. З любімым пісьменнікам па жыцці прайшла Алена Васілевіч.

Менавіта коласаўская тэма вытокаў таленту надае асаблівую лірычную «падсветку» аповесцям аб Ганьцы. Гэтыя высокі—і шчырая, працавітая, духоўна багатая натура маці, якая вучыла Ганьку дабраце, сумленнасці, і цудоўная беларуская прырода, палі і лясы, што акружалі вёсачку Зялёная Дуброва і якія сталі для пісьменніцы «яе Ідыліяй» (раздзелам «Мая Ідылія» адкрываецца кніга). Гэтыя вытокі — і добрыя людзі, што выхоўвалі сірату Ганьку, і яе настаўнікі, і кнігі, якія сталі для Ганькі лепшымі сябрамі.

Погляд Васілевіч на Ганьку ў нечым замілаваны, у нечым трохі іранічны, у нечым засмучоны, але без сентыментальнасці.

У аповесці «Доля знойдзе цябе» многа драматычных момантаў. Разам са смерцю маці скончылася бесклапотнае, шчаслівае маленства. Жыццё дзяўчынкі стала цяжкім, няўтульным, і, здавалася, скончылася ідылія.

Ганька яшчэ гуляе ў дзіцячыя гульні, але ўжо многа і працуе. Усё шырэйшымі робяцца сувязі Ганькі са светам. Тут і школа, і новыя сябры, і ўзаемаадносіны са сваякамі, вельмі рознымі па сваіх характарах, поглядах на жыццё. Усё з большай пранікнёнасцю ўзіраецца Ганька ў людзей, многае пачынае разумець. І раней у яе быў свой погляд, а лепш сказаць, не погляд, а інтуітыўнае чуццё на дрэнных і добрых людзей, і ацэнкі яе былі часта надта строгія. У другой аповесці ўсё выразней ацэньвае Ганька людзей.

Калі ў першай аповесці дзяўчынка больш пазнае навакольны свет і нормы маралі, дык у другой і трэцяй аповесцях — адкрывае і пазнае людзей, і ўжо адчувае сябе сярод іх асобай. Ганьчын погляд на свет асабліва востры ад таго, што яна сірата і часта адчувае сваё амаль што батрацкае становішча ў сваякоў — заможных дзядзькі Мікалая і цёткі Фядоры. Але гэта не традыцыйны твор аб горкім лёсе сіраты. Ганька жыве ў Савецкай краіне, у «ленінавай дзяржаве». Так называецца першы раздзел другой аповесці, і ён — як добры запеў да новай тэмы ў паказе лёсу сіраты. Калі пасля раскулачання дзядзькі і цёткі Ганька пераходзіць жыць да другой цёткі — Іваніхі, жыццё дзяўчынкі змяняецца, яна «з кожным днём усё больш адчувае, як жыццё яе, нібыта тая лодка, што вybілася з твані на вольную ваду, шыбуе па гэтай лёгкай вадзе наперад». А наперадзе — сямігодка, кнігі, новыя сябры.

Сапраўды, далей Ганька ўсё хутчэй плыве па гэтай вольнай вадзе, вакол яе праносяцца падзеі, людзі... Асабліва гэтая імклівасць адчуваецца ў апошняй аповесці «Пачакай, затрымайся...» Ганька як бы некуды ляціць, яна ўвесь час у паездках. Але калі ў папярэдніх аповесцях мастацкую каштоўнасць атрымлівала толькі тое, што ўдзельнічала ў працэсе духоўнага росту гераіні, дык у чацвёртай аповесці рэчаіснасць малюецца больш шырокай, чым жыццёвыя пошукі Ганькі.

Безумоўна, шасцігадовы і шаснаццацігадовы чалавек успрымаюць жыццё па-рознаму. Імкненнем глыбей зазірнуць у Ганьчыну душу, душу дарослай дзяўчыны, і было, відаць, выклікана рашэнне пісьменніцы весці апавяданне ў апошняй аповесці ад першай асобы.

Ганьчын характар складваўся нялёгка. Пазнаёміўшыся з першымі аповесцямі, чакаеш новых сустрэч — з характарам цікавым, глыбокім, супярэчлівым. Ганька адначасова сарамлівая і энергічная, уражлівая і трошкі гультаяватая («Каб менш урокаў было вучыць ды каб больш выхадных дзён было — тады б Ганька, напэўна, была б самай лепшай вучаніцай»), добрая і сціплая («Дзяўчаты загрызаюць мяне, чаму я не надрукую ў альманаху верш пра наш пакой... Каму не хочацца славы і бяссмерця! А я, дурная, замест таго, каб узводзіць помнікі, замуроўваю сяброўства»).

На жаль, многія цікавыя рысы ганьчынага няроўнага характару як бы згладжваюцца ў апошняй аповесці, хоць такія важныя падзеі ў яе жыцці, як вучоба ў Слуцкім педвучылішчы, Рагачоўскім педінстытуце, першае каханне, паездка ў Маскву, Ленінград, маглі б быць удзячным матэрыялам для далейшага раскрыцця характару гераіні. Увогуле, апошняя аповесць Васілевіч нагадвае мемуары, праўда, аздобленыя добрым, светлым гумарам, у той час, калі папярэднія часткі тэтралогіі можна было б назваць дакументальна-лірычнымі аповесцямі.

Нягледзячы на некаторую рацыяналістычнасць апошняй часткі, тэтралогія «Пачакай, затрымайся...» уяўляецца цэласным творам. Перш за ўсё прываблівае шчырасць, натуральнасць спавядальнай інтанацыі аўтара, уменне паглядзець на свет вачамі дзіцяці, уменне перадаць наіўнасць і адначасова дзіцячую мудрасць, даверлівасць да людзей і радасць жыцця.

Цэласнасць твору надае і вобраз эпохі. У аповесцях, асабліва ў першых трох, выразна высвечваецца каларыт, дэталі жыцця нашай краіны 20—30 гадоў. Цікава, што раздзелы, у якіх расказваецца пра значныя сацыяльныя падзеі тых часоў, сумяшчаюць у сабе як бы два стылявыя пласты: рэчаіснасць у Ганьчыным уяўленні і аднaчасова аб'ектыўны аўтарскі позірк. Так, у канцы апісання вясковага сходу робіцца як бы падагульненне: «Была ўжо агульная зямля, і коні былі агульныя, і насенны фонд, засыпаны адразу пры арганізацыі калгаса, таксама быў агульны. Душа толькі ўсё як быццам па спрадвечнай звычцы, заставалася аднаасобнай». Драматызм масавым сцэнам надае вобраз Сцёпіхі — яго, як ужо адзначалася нашай крытыкай, можна лічыць безумоўнай удачай пісьменніцы.

Цікава прасачыць кампазіцыю аповесцей. Як і «Новая зямля», яны будуюцца ў нейкай ступені па каляндарным прынцыпе, ва ўсякім разе даволі паслядоўна прасочваецца жыццё гераіні на фоне змен у прыродзе і ў ходзе сялянскіх работ, у якіх і Ганька прымае ўдзел. Для стылю Васілевіч характэрна канкрэтнасць, што таксама ў агульным ключы коласаўскай літаратурнай традыцыі — канкрэтнасць у апісанні быту, людзей, іх адносін паміж сабой.

Мы пакінулі Ганьку на парозе будучыні, за месяц да пачатку вайны. Далей будуць і радасці, і трывогі, і надзеі... І мы ўдзячны пісьменніцы за той прывабны, паэтычны край дзяцінства, што ўвайшоў разам з кнігай у наша жыццё.

**Таццяна ШАМЯКІНА.**

А. Васілевіч. «Пачакай, затрымайся...»: «Мастацкая літаратура», 1972.

# ЗЯМЛЯ РОДЗІЦЬ БАГАТА

Карэнным чынам змяніліся сацыяльныя ўмовы жыцця і працы селяніна пры Савецкай уладзе. У вёсцы ўсталяваўся калектыўны лад. І вось на маладзечанскай зямлі, якая спрадвеку славілася сваёй неўрадлівасцю, у 1971 г. атрымана ў сярэднім з гектара звыш 35 цэнтнераў збожжа (і гэта не самы высокі ўраджай у раёне). Дасягненне вялікае!

Вядома, шлях да яго быў нялёгкі, усё гэта само сабой не прыйшло. І асабліва вялікая заслуга ў гэтым і ў другіх дасягненнях належыць старшыні калгаса імя Дзяржынскага Рыгору Пачуйку. Таму натуральна, што аўтар удзяліў яму належную ўвагу, раскрыўшы характэрныя для яго рысы кіраўніка-камуніста.

Жыццёвы шлях Рыгора Пачуйкі багаты і павучальны. Гэты чалавек належыць да таго пакалення, якое, толькі ўступіўшы ў працоўнае жыццё, павінна было ўзваліць на свае юначыя плечы непамерны цяжар Вялікай Айчыннай вайны, зведаць у найбольшай меры горыч першых яе няўдач і здабыць найвялікшую ў гісторыі перамогу. У першыя пасляваенныя гады Рыгор Пачуйка ўсе сілы аддае ўзнаўленню разбуранага жыцця. У 1950 г. яму прапанавалі ўзначаліць калгас. Чалавек выключна сур'ёзных адносін да жыцця, ён не адразу прыняў гэту прапанову, доўга раздумваў, бо ведаў, «што пасада старшыні можа самая цяжкая». Але згадзіўшыся, ён цвёрда рашыў зрабіць такі калгас, «каб людзям добра жылося, каб мо' калі сказалі мне дзякуй».

Нялёгка было ісці да гэтай мэты. Як усе тагачасныя калгасы ў Заходняй Беларусі, і калгас вёскі Хожава, дзе Рыгора Пачуйку абралі за старшыню, быў малады і арганізацыйна слабы. Трэба было пераадольваць жорсткае супраціўленне класавых ворагаў, цёмную ўладу прыватнаўласніцкага інстынкту над адсталай часткай насельніцтва. Былі моманты (на жаль, аўтар сказаў пра іх мімаходзь), калі малады старшыня траціў веру ў свае сілы, думаў, што не зможа адолець схільнасці людзей да старога. Але верх брала пачуццё вялікай адказнасці камуніста перад партыяй, перад народам, і ён яшчэ з большай энергіяй браўся за працу. І дваццацігадовая напружаная дзейнасць на пасадзе старшыні ў адным калгасе дала вялікі плён.

Пісьменнік, паказваючы неспакойную, поўную шматлікіх клопатаў, працу свайго героя, ракрывае «сакрэты» яго поспехаў, яго аўтарытэту сярод людзей, якімі ён кіруе. Гэта і непахісная вера ў праўду той справы, якую робіш, і цвёрдая апора на актыў і на надзейных умелых памочнікаў, і цвярозы рэалістычны падыход да справы, і прынцыповасць як у вялікім, так і ў малым, і чалавечы такт, без якога нельга наладзіць добрыя адносіны з людзьмі, а тым больш кіраваць імі. Асабліва здзіўляе ў Рыгору Пачуйку выдатнае веданне ім людзей свайго калгаса. «Каб я не ведаў людзей і гаспадаркі, які б з мяне быў старшыня? — гаворыць ён. — Я сяджу іншы раз у сваім кабінеце, бачу праз акно — ідзе чалавек у кантору. У мяне мільгне думка: ну, папросіць тое і тое, скажа тое і тое. І, ведаеце, рэдка калі памылюся». Усё гэта вынік вялікай любві да справы, поўнай аддачы сябе людзям.

Але каларытная постаць старшыні ніколькі не засланіла аўтару другіх людзей калгаса. Паказаныя ў нарысе людзі старэйшага пакалення—гэта жывая гісторыя нашага народа за апошняе паўстагоддзе. Пра гэта вельмі ўсхвалявана сказаў пісьменнік: «Гісторыя... Здаецца, ужо адбалелая, застылая, а сунеш руку глыбей, як у попел, а там яшчэ горача, яшчэ пячэ і бярэ за жывое». Сапраўды, гарачы подых мінулага вее ад біяграфій Івана Цярэшкі і Мар'і Бабёр, Іосіфа і Параскі Ганаў, Івана і Ганны Бажко, Сцяпана Бурака. Усе яны былі ў гушчы гістарычных падзей. У гады белапольскай акупацыі Заходняй Беларусі яны — актыўныя ўдзельнікі барацьбы супроць панскай улады, у памятную восень 1939 года — натхнёныя будаўнікі новага савецкага жыцця, у фашысцкае ліхалецце — грозныя народныя мсціўцы, а ў мірны час — сціплыя працаўнікі-хлебаробы.

У нарысе шырока паказаны і людзі маладзейшага пакалення. Яны ўвасабляюць сабой сённяшнюю калгасную вёску, без іх яе нельга ўявіць. Гэта ў асноўным спецыялісты сельскай гаспадаркі і механізатары.

Свой расказ пра іх аўтар заключае словамі: «Гэта ўжо не тыя людзі, якія жылі тут трыццаць год назад. Ад таго, мінулага, засталіся толькі ўпартасць, цягавітасць і нястомная любоў да працы. Ва ўсім астатнім — гэта ўжо новыя людзі, людзі калектыўнай працы».

Шырока паказваючы поспехі калгаса, рост новага ў жыцці, аўтар аднaчасова не абмінае таго, што яшчэ не зроблена, што яшчэ носіць адбітак мінулага. Не да твару, напрыклад, перадавому багатаму калгасу не мець ясляў. І пісьменнік даў вельмі выразную замалёўку адмоўных вынікаў гэтага. Шмат таго, што трэба зрабіць для паляпшэння быту калгаснікаў, усплыло ў час сустрэчы кіраўнікоў раёна на чале з першым сакратаром райкома партыі Уладзімірам Быкоўскім з жыхарамі вёскі. (Дарэчы, гэта — новая і досыць дзейсная форма азнаямлення кіруючых работнікаў з жыццём працоўных, і яе трэба ўсяляк развіваць). Нямала непаладак у гаспадарцы было выяўлена на пасяджэнні праўлення калгаса.

Нарыс У. Дамашэвіча «Каб радзіла зямля» — гэта жывы кавалак нашай рэчаіснасці. Ён дае нам яскравае ўяўленне пра сённяшнюю калгасную вёску, пра дасягненні, якія яна мае, і пра тыя праблемы, якія ёй трэба вырашаць.

**Мікола ЕРМАЛОВІЧ.**

Уладзімір Дамашэвіч. «Каб радзіла зямля». Нарыс. Выдавецтва «Беларусь», 1972.

## Выйшлі з друку

### ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»

**А. Бялевіч. Хатынь: боль і гнеў.** Пераклад на рускую мову Ул. Жыжэнкі. Мастак М. Басалыга. 1972 г. 96 стар. Тыраж 150 000 экз. Цана 19 кап.

**І. Зуевіч. Райком у падполлі.** Мемуары. Літаратурны запіс А. Кейзарава. Мастак С. Кавалёў. На рускай мове. 1972 г. 252 стар. Тыраж 75 000 экз. Цана 58 кап.

**Вакальныя творы на словы Якуба Коласа.** Зборнік. Складальнік Д. Жураўлёў. Мастак І. Бялецкі. 1972 г. 32 стар. Тыраж 1 300 экз. Цана 37 кап.

### ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

**М. Арочка. Кветкі бяссмертніка.** Вершы. Мастак В. Масцераў. 1972 г. 136 стар. Тыраж 4 000 экз. Цана 41 кап.

**М. Бабарыка. За круглым ваконцам.** Аповесць. Мастак У. Пашчасцеў. На рускай мове. 1972 г. 80 стар. Тыраж 100 000 экз. Цана 12 кап.

**М. Гамолка. Дзяўчына ішла па вайне.** Аповесць-хроніка. Мастак А. Архіпаў. На рускай мове. 1972 г. 272 стар. Тыраж 30 000 экз. Цана 57 кап.

**А. Жук. Асеннія халады.** Апавяданні. Мастак У. Пашчасцеў. 1972 г. 144 стар. Тыраж 5 000 экз. Цана 17 кап.

**В. Зуб. П'есы для школьнай сцэны.** Мастак В. Кандар. 1972 г. 216 стар. Тыраж 14 000 экз. Цана 43 кап.

**Якуб Колас. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 2.** Вершы 1917—1956. Афармленне Л. Прагіна. 1972 г. 568 стар. Тыраж 18 000 экз. Цана 87 кап.

**П. Місько. Навасёлы.** Аповесць. Мастакі Н. і П. Драчовы. 1972 г. 208 стар. Тыраж 14 000 экз. Цана 64 кап.

**А. Рыбак. Дарогі бываюць розныя.** Апавяданні і гумарэскі. Мастак В. Масцераў. 1972 г. 136 стар. Тыраж 5 000 экз. Цана 16 кап.

### ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА і ТЭХНІКА»

**Ю. Чурко. Беларускі народны танец.** Гісторыка-тэарэтычны нарыс. Мастак А. Чурко. На рускай мове. 1972 г. 196 стар. Тыраж 2 300 экз. Цана 87 кап.

# ПРА САМАЕ ДАРАГОЕ

## АРАТОРЫЯ Д. СМОЛЬСКАГА «МАЯ РАДЗІМА»

Беларускія кампазітары пачалі ўсё часцей звяртацца да кантатна-аратарыяльнага жанру. Вакальна-сімфанічная паэма Г. Вагнера «Вечна жывыя», кантата-балада І. Лучанка «Невядомы салдат», вакальна-сімфанічная паэма С. Картэса «Попел», араторыя Д. Смольскага «Мая Радзіма»... Такі, далёка не поўны, пералік твораў нашых кампазітараў, напісаных у гэтым жанры за апошні час. Усе яны пасвойму цікавыя і значныя.

Араторыя Д. Смольскага, якая выканана ўпершыню два гады назад на адкрыцці канцэртнага сезона нашай філармоніі, гучала не толькі ў Мінску. З араторыяй пазнаёміліся масквічы і госці сталіцы на фестывалі «Маскоўскае музычнае лета», які адбыўся сёлета ў жніўні. Выкананне араторыі адбывалася заўсёды з вялікім поспехам.

**У Маскве араторыя выконвалася ў садружнасці з Днепрапятроўскім сімфанічным аркестрам. Аб гэтым выкананні мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор аркестра, заслужаны артыст РСФСР Г. Карапяцян сказаў: «Нашаму калектыву было прыемна пазнаёміцца самому, а потым пазнаёміць слухачоў з цікавай араторыяй Д. Смольскага «Мая Радзіма». Асабіста мне, як дырыжору, падабаецца, што ў гэтым творы спалучаны глыбока народныя па духу словы з майстэрскім выкарыстаннем сучасных сродкаў музычнай выразнасці».**

Калі знаёмішся з араторыяй упершыню, можна многае прапусціць, нешта не пачуць. Ды і выкананне такога цяжкага твора не заўсёды ідэальнае. Таму спачатку больш зразумелы ён, безумоўна, выканаўцам. Араторыя «Мая Радзіма» напісана для хору, аркестра і трох салістаў: тэнара, баса і чытальніка.

**«Я выконваў у араторыі партыю тэнара. — гаворыць выкладчык кансерваторыі Л. Івашкоў. — І з кожнай рэпетыцыяй, з кожным выступленнем усё глыбей мяне хвалюе яе філасофскі сэнс. Ён багаты на змест і ў вершах, якія былі крыніцай натхнення і творчага пошуку кампазітара, і ў яго музычным раскрыцці, у нечым не зусім традыцыйным, звычным. Напрыклад, заканчэнне араторыі не мае «кропкі» — таго апафеоза, які чамусьці лічыцца абавязковым.**

**З кожным новым выкананнем я знаходжу ў араторыі ўсё больш прыгожага і, думаю, што не толькі я...»**

Выканаўца партыі чытальніка ў араторыі — артыст Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы В. Анісенка нібы працягвае гэтую думку і гаворыць: «Калі два гады назад Д. Смольскі «паказваў» мне араторыю за раялем, я ў першую чаргу звярнуў увагу на вершы. І не толькі таму, што я чытальнік. Такой празрыстай, у поўным сэнсе «высокай» паэзіі ў адным музычна-драматургічным творы мне да гэтага часу сустракаць не даводзілася. На першых рэпетыцыях балада А. Вярцінскага (частка № 6), пакладзеная на музыку, узрушыла мяне. Як глыбока адчуў кампазітар баладу пра тое, што на Беларусі загінуў ад рук фашыстаў «кожны чацвёрты»!

Мне здаецца, што ў дадзеным выпадку араторыя вельмі арганічна заканчваецца не музыкай, а вершамі. Шчырая і цудоўная споведзь М. Танка аб любві да роднай беларускай мовы сама па сабе — музыка:

Я гэту мову ўзяў сабе
 таму,
Што ў ёй зашмат было
 гаротных песень,
І мне хацелася прынесці
 болей
Ёй чалавечай радасці і
 сонца,
Таму цяжэй мне, як
 другім, калісьці
На гэтай мове стаць было
 паэтам...

Мажорны акорд пасля гэтых вершаў ставіць «апошнюю кропку» і з'яўляецца натуральным завяршэннем усёй араторыі...»

**Партыю баса ў араторыі ў мінулым сезоне выконваў саліст Беларускага тэатра оперы і балета Міхаіл Дружына. Аб сваіх уражаннях ён гаворыць: «З творчасцю Д. Смольскага я знаёмы ўжо даўно. За гэты час я спеў многа яго песень і рамансаў. Араторыя «Мая Радзіма», безумоўна, самы значны твор кампазітара ў вакальным жанры. Галоўнае, што мяне прыцягвае ў ёй,— адзінства музыкі і тэксту. Бо не сакрэт, што нярэдка музыка і тэкст не складаюць адзінага цэлага, ад чаго творы ў многім праграюць. У араторыі музыка так беражліва падтрымлівае саліста, што дасягаецца поўнае адзінства слова і мелодыі. Яркі прыклад таму — другая частка араторыі «Я песню прызнання табе складаў» (вершы Н. Гілевіча). Лірычны змест слоў перадаецца не распеўнай, а энергічнай, імпульсіўнай мелодыяй, якая ідзе ў хуткім тэмпе і дапамагае раскрыць эмацыянальны стан узрушанага чалавека...**

**Хвалююся я, выканаўца, хвалюецца і слухач, бо кожны радок паэтычнага тэксту, кожная мелодыя прасякнуты шчырай любоўю да беларускай зямлі, яе народа і роднай мовы».**

Цяпер рыхтуецца запіс араторыі ў фонд Усесаюзнага радыё. Запіс павінен адбыцца ў снежні — студзені. А яшчэ раней, у лістападзе, намячаецца яе паказ у Маскве з Вялікім сімфанічным аркестрам СССР. Усё гэта сведчыць аб прызнанні бясспрэчных вартасцей твора Д. Смольскага. Таму натуральна, што араторыя вылучана на атрыманне прэміі Ленінскага камсамола БССР. Яна ўносіць свой уклад у патрыятычнае выхаванне моладзі.

**І. ЛЕАНІДАЎ.**

# НАПЕЎ СТРУНЫ ЦЫМБАЛЬНАЙ

БЕЛАРУСКАЯ філармонія наладзіла да 50-годдзя ўтварэння СССР агляд лепшых канцэртных праграм, падрыхтаваных мастацкімі калектывамі рэспублікі да гэтага свята. Пачаўся ён канцэртам Дзяржаўнага народнага аркестра БССР (мастацкі кіраўнік — народны артыст СССР І. Жыновіч, дырыжор — М. Казінец). Такі пачатак заканамерны, бо гэты ансамбль ярка раскрывае народную сутнасць і хараство нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце музычнай культуры сучаснай Беларусі.

Інструментальныя ансамблі маюць свае спецыфічныя асаблівасці: у адных — пяшчотнасць гучання, яркія магчымасці лірычнага ўвасаблення вобразаў, у другіх — багацце ўдарных інструментаў, магутнасць гукавых хваляў, у трэціх — перавага духавых над струннымі (або наадварот)... Аркестр І. Жыновіча па сваім складзе такі, што мае магчымасць выконваць самыя розныя партытуры: у ім арганічна спалучаюцца беларускія народныя інструменты з асобнымі інструментамі сімфанічнага аркестра.

Справаздачны канцэрт гэтага калектыву, які адбыўся 1 кастрычніка ў філарманічнай зале Мінска, яшчэ раз паказаў, што яму падуладныя ўсе адценні дынамікі, складаныя гармоніі, рытмы, тэмпавыя зрухі і г. д. Аднолькава дасканала былі выкананы і пранікнёная фальклорная мелодыя, і самая складаная сімфанічная п'еса. Некаторыя з такіх транскрыпцый атрымалі наогул новае канцэртнае жыццё і заззялі яшчэ больш чароўна.

Праграма, аб якой мы расказваем, успрымалася як вянок твораў народаў братніх рэспублік і ўзораў класічнай спадчыны кампазітараў свету. Упершыню на канцэртнай эстрадзе прагучалі дзве часткі — Пралог і Скерца — з Драмы-сюіты маладога беларускага кампазітара Кіма Цесакова. Музыка (дырыжор М. Казінец) уражвае слухача, выклікае яркія асацыяцыі з напружанымі падзеямі нашага часу; аўтар яе цікава выкарыстоўвае прыгажосць аркестравых тэмбраў, асабліва крайніх рэгістраў (літаўры і цымбалы-прымы). Прэм'ерай гэтай праграмы была і ўверцюра да оперы «Золушка» Д. Расіні. Тут, як і ў «Вальсе-фантазіі» М. Глінкі, аркестр прадэманстраваў здольнасць «спаборнічаць» па мастацкіх выніках з сімфанічным ансамблем.

Да лепшых нумароў праграмы трэба аднесці выкананне «Успамінаў пра Альгамбру» Ф. Тарэга і трэнскрыпцыю ўкраінскай народнай песні «Раве ды стогне Днепр шырокі...» Калі ў першым з гэтых твораў выразна была падкрэслена адухоўленасць мелодыі, то ў другім —яго шырыня эмацыянальнага подыху, усхваляванасць, грозная сімволіка вершаў Тараса Шаўчэнкі.

Высокая ансамблевасць ігры аркестра была надзвычай добра выяўлена ў выкананні «Народнага свята» з музыкі Д. Шастаковіча да фільма «Авадзень». Цёпла, з глыбокім адчуваннем своеасаблівага стылю прагучала азербайджанская народная мелодыя «Эўлары вар хана, хана...» Парадавалі і такія нумары, як казахская народна-інструментальная мелодыя «Кюй», дзе музыканты перадалі імклівую дынаміку і кульмінацыю твора, або «Лезгінка» з оперы «Даісі» З. Паліяшвілі, у якой такім выразным было чаргаванне рытмаў і тэмпаў.

Праўда, неставала летуценнасці ў выкананні вальса з музыкі да балета «Сем прыгажунь» К. Караева. Даволі фармальна прагучаў і ўзбекскі танец «Кары-Нэво» Гліэра — Садыкава.

У канцэрце ўдзельнічалі спевакі—Ніна Казлова, Міхась Здaневіч і Аляксандр Руткоўскі. Маладая салістка філармоніі, лаўрэат Рэспубліканскага конкурсу Н. Казлова валодае сапрана прыгожага тэмбра і яркага верхняга рэгістра; ёй неабходна яшчэ звярнуць увагу на ўдасканаленне дыкцыі. Бас М. Здaневіч і тэнар А. Руткоўскі маюць большы творчы стаж, але толькі другі з іх прадэманстраваў высокае майстэрства, першы спяваў значна ніжэй сваіх магчымасцей.

І ўсё ж канцэрт Дзяржаўнага народнага аркестра БССР быў змястоўны і багаты па ўражаннях, якія засталіся ў слухачоў. Радавала і разнастайная праграма, і высокі артыстычны ўзровень выканання большасці яе нумароў.

**І. СЯЎКО.**

# І ПЕСНЯЙ АГНІСТАЙ ДЗІВІЦЕ НАРОДЫ

**Лекцыя-канцэрт «Янка Купала і Якуб Колас у музыцы» адбылася 2 кастрычніка ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Гэты цікавы і змястоўны канцэрт-лекцыя — адзін з дванаццаці канцэртаў агляду праграм калектываў і выканаўцаў нашай рэспублікі, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР.**

Музыказнаўца Іна Зубрыч захоплена і шчыра расказала пра народныя вытокі творчасці Купалы і Коласа, пра іх улюбёнасць у родны край. Да творчасці народных песняроў звярталіся скульптары, мастакі, кампазітары. Шырока вядомы рамансы, песні, балады, кантаты на іх словы М. Аладава, А. Багатырова, А. Туранкова, Р. Пукста, Я. Цікоцкага, Ю. Семянякі, І. Лучанка...

У канцэрце прагучаў раманс Л. Абеліёвіча «Ноч» на словы Якуба Коласа, які прачула выканаў саліст філармоніі Ул. Вепрык, у суправаджэнні піяністкі Е. Эфрон.

Некалькі твораў Купалы і Коласа прачытаў майстар мастацкага слова С. Сакалоў. Піяністка Л. Дворжац пазнаёміла прысутных з варыяцыямі П. Падкавырава на тэмы вядомага Купалавага верша «А зязюля кукавала». Першае аддзяленне канцэрта закончылася літаратурна-музычнай кампазіцыяй па паэме «Курган» (музыка І. Лучанка) у выкананні С. Выдрына, А. Лявончык і Е. Эфрон.

У другім аддзяленні канцэрта Акадэмічная харавая капэла і сімфанічны аркестр выканалі кантату «Беларускім партызанам». Два фрагменты з оперы «У пушчах Палесся» А. Багатырова праспявалі заслужаная артыстка БССР І. Шыкунова і саліст філармоніі Б. Казанцаў (арыя Кузьміча). Канцэрт закончыўся першай сюітай з балета Я. Глебава «Выбранніца».

**Я. КУДЗЕЛЬКА.**

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4—5.)

школу пешшу за некалькі кіламетраў?» Угаварыў...

Іншым разам я мо і не звярнуў бы асаблівай увагі на гэты факт — не вельмі маштабны. А тут падаўся ён мне прынцыпова важным. Успомніў, як перад паездкай у «Шлях камуны» расказвалі мне ў Капылі пра выступленне Касінскага на адной з сесій райсавета. На парадку дня было пытанне аб выкананні нарыхтовак малака, а Касінскі ўзяў слова, ды пачаў гаварыць пра лазні, пра магазіны ды яслі. А калі нехта кінуў рэпліку, што прамоўца, маўляў, гаворыць не па тэме, Міхайлавіч яму, як двойчы два, даказаў, што гаворыць ён па самай што ні ёсць тэме. Не бачыць трывалага поспеху той гаспадарцы, дзе не клапоцяцца аб хлебаробе.

Што датычыць «Шляха камуны», дык тут ёсць і магазіны, і лазні, і сталоўка, а вось-вось адкрыецца сад-яслі на 45 месц.

Не сцярпеў Міхайлавіч (і я яго зразумеў), павёз мяне палюбавацца вуліцай мураваных катэджаў — іх 15, — дзе жывуць калгаснікі. Гэта ядро будучага вялікага пасёлка, які пачаў ужо будавацца. (Дарэчы, калгас пакуль што адзіны ў раёне мае генплан забудовы).

Генпланам гэтым прадугледжаны гандлёвы цэнтр, клуб на 200 месц, васьмігадовая школа, фельчарска-акушэрскі пункт, дом піянераў, камбінат бытавога абслугоўвання, стадыён, 9 жылых дамоў.

Зараз шмат спрачаюцца, як забудоўваць вёску. Я расказваю Касінскаму, што нядаўна быў у новым калгасным пасёлку ў Слуцкім раёне. Пасёлак прыгожы — двухпавярховыя катэджы. Хіба толькі карціну псуюць хлявы ля кожнага дома.

— У мяне на гэты конт, — гаворыць старшыня, — думка такая: кароў, што ў асабістым карыстанні, утрымліваць на калгаснай ферме. Гаспадары будуць плаціць толькі за кармы. Усё астатняе бярэ на сябе калгас. І дойку (у нас яна цалкам механізавана), і догляд, і абсемяненне, ветэрынарны нагляд і г .д.

— Але ж каровы розныя, адна дае многа малака, другая...

— Гэта мы ўлічылі. Выйсце вельмі простае — час ад часу рабіць кантрольныя надоі. Скажам твая, Мар'я, «Красуля» ў чэрвені дае ў дзень па 12 літраў? Калі ласка, забірай столькі малака. Многа табе—можаш лішак прадаць калгасу.

Я кажу Касінскаму, што гэта ўсё-такі нейкі і цяжар для калгаса.

— Ну, па-першае, для каго ж калгас, як не для калгаснікаў? — гаворыць Касінскі. — А, па-другое, мы ўсё ўзважылі — гэта выгадна і калгасу. Выгадна ў тым сэнсе, што чалавек зможа прыняць больш актыўны ўдзел у грамадскай працы. А то прыходзіць да мяне, скажам, трактарыст і просіць: «Адпусціце, Міхайлавіч, сена карове накасіць». І адпусціш, бо ведаю — трэба.

Або вось яшчэ. Увялі мы сёлета бясплатныя абеды для механізатараў. Той-сёй з членаў праўлення спачатку засумняваўся, маўляў, уляціць гэта гаспадарцы ў капеечку. А я ім кажу, давайце ўсё ўзважым: калі ідзе, скажам, трактарыст абедаць дамоў, дык у яго гэта займае не менш дзвюх гадзін. Ды яшчэ невядома, як ён пад'есць дома, бо бывае і жонка на рабоце, няма каму згатаваць. У сталоўцы ён пад'есць за паўгадзіны, і пад'есць

# ЧАСОПІСЫ Ў КАСТРЫЧНІКУ

## «ПОЛЫМЯ»

**Паэт Пімен Панчанка выступае са сваімі новымі вершамі. Паэзія прадстаўлена таксама новымі творамі Рыгора Барадуліна і Аляксея Пысіна. У мінулым нумары быў надрукаваны пачатак рамана Аляксея Кулакоўскага «Сцежкі зведаныя і нязведаныя». Цяпер чытачы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з заканчэннем гэтага твора.**

**Раздзел публіцыстыкі адкрываецца нарысам Янкі Сіпакова «Чалавек на зямлі». Мікола Філімонаў свае нататкі назваў «Амерыка ўсё тая ж». Цікавае інтэрв'ю з прэзідэнтам Акадэміі навук БССР акадэмікам М. Барысевічам. «За небакраем небачрай» — так яно названа.**

**У кастрычніку спаўняецца 60 гадоў з дня нараджэння крытыка і даследчыка беларускай літаратуры Юльяна Пшыркова. Пра яго творчасць расказвае Алег**

добра. Эканомім цэлую гадзіну. Падлічыце, колькі можна зрабіць за гадзіну?

Я слухаю Міхайлавіча і думаю пра тое, што вось гэтае ўменне ўваходзіць у сутнасць кожнай з'явы, уменне ўсё разлічыць, усё ўзважыць і складае, мабыць, талент кіраўніка.

НА СТАРШЫНЕЎСКІМ газіку мы калясім па калгасных палях. Вядзе машыну Міхайлавіч упэўнена, лёгка, як бывалы шафёр. Вось палетак, дзе жанчыны паднімаюць са сцелішчаў лён. Старшыня тлумачыць, што звычайна гэту работу ў іх выконвае спецыяльная машына, але сёлета вельмі суха, лён вылежваецца нераўнамерна і трэба глядзець, каб не трапіў у снапы нявылежалы. Міхайлавіч хутка праходзіць

# МІХАЙЛАВІЧ

паміж радамі снапоў, раптам паднімае адзін.

— Эге ж, дарагія, як гэта сюды трапіла жменька нявылежалага?

Жанчыны збянтэжана пераглядаюцца.

— Відаць, не заўважылі, — гаворыць адна з іх.

— Вы не заўважылі, затое прыёмшчык на заводзе абавязкова заўважыць. Возьме выбарачна такі сноп і па ім усю партыю ацэніць. Ведаеце, колькі мы грошай страцім?

Не, усё гаворыцца ціхім голасам, спакойна. Толькі па тварах кабет бачна, што ім хопіць і гэтага. Старшыня раптам звяртаецца да адной з іх з пытаннем:

— Як здароўе дачушкі, Кірылаўна? Выздаравела?

— Дзякуй, Міхайлавіч, ходзіць ужо...

Газік бярэ кірунак у першую брыгаду, дзе капаюць бульбу. Па ўборцы бульбы калгас на адным з першых месц у раёне.

— Дзён праз дзесяць закончым,— гаворыць старшыня. І раптам выказвае зусім крамольную думку: — Гэта дрэнна, што спяшаемся з уборкай. — Заўважыў на маім твары здзіўленне, тлумачыць з прыкрасцю: — Позняя гатункі бульбы, а ў нас пераважна позняя, трэба ўбіраць недзе з палавіны верасня. А мы пачынаем з першага і губляем недзе трэць ураджаю, бо бульба яшчэ павінна расці. Дарэчы, аб гэтым папярэджваў на адным з семінараў акадэмік Дарожкін. Але ж рабіць не так, як мы робім, не выпадае, бо з першага верасня прыязджаюць студэнты і школьнікі, і мы вымушаны прыстасоўвацца да іх. Разумееце, не яны да нас, а мы да іх. Але я калі-небудзь гэта паламаю...

— А як вы будзеце выглядаць у зводцы, усе ўбіраюць, а вы не?..

— Такой бяды! — махае Міхайлавіч.

Мне вельмі падабаецца ў людзях незалежнасць, самастойнасць мыслення. Відаць, у сельскай гаспадарцы гэтая якасць асабліва неацэнная. Колькі было іх, герояў-аднадзёнак, якія выплывалі з невядомасці на першыя старонкі газет толькі таму, што кідаліся на злом галавы выконваць усе рэкамендацыі. Ды яшчэ з перавышэннем. Памятаю старшыню калгаса (было гэта даўнавата), які заняў пад кукурузу не 12 працэнтаў ворыўнай зямлі, як было рэкамендавана, а 25. Месяцы два хадзіў ён чырвоны ад гонару, які яго літаральна распіраў. Выступаў на нарадах, даваў інтэрв'ю. Расказвалі — ён толькі што не начуе на кукурузным палетку, усё кінуў сюды. Але лета выдалася прахалоднае, і з кукурузы той атрымаўся пшык. Старшыню, якога раней паднімалі ледзь не да нябёс, пачалі лаяць каму не лянота. Праўда, праз некалькі гадоў імя яго зноў усплыло — ён першы ў раёне адмовіўся ад шматгадовых траў.

— Дарэчы, — пытаюся я ў Міхайлавіча, — як вы перажылі тую канюшынную эпапею?

На твары Міхайлавіча здзіўленне, відаць, ад непаслядоўнасці маіх пытанняў.

— Нам тады на правяраючага пашанцавала, — усміхаецца Касінскі.— Зрабіў выгляд, што канюшыны ў нас не заўважыў, так і ў раёне далажыў.

...Першае, пра што я падумаў на бульбяным палетку, — чаму не ўзяў з сабой фотаапарат. Выдатны атрымаўся б кадр. Па полі ідзе ярка-чырвоны бульбаўборачны камбайн, побач з ім сінхронна рухаецца трактар з прычэпам, у які сыплецца ядраная бульба. Дадайце да гэтага ясны сонечны дзень і купы жоўтых дрэў на краі поля. Прыгожа!

Касінскі знаёміць мяне з камбайнёрам. Коратка рэкамендуе:

— Гулінскі Яўген Аляксандравіч. Лепшы наш механізатар. Член праўлення, узнагароджаны медалем «За працоўную доблесць».

Гулінскі глядзіць на старшыню ўмольнымі вачыма.

— Ведаю, ведаю, вы ў нас чалавек сціплы, — усміхаецца Касінскі.

Потым ужо, калі ад'язджаем, гаворыць:

— Цаны няма гэтаму чалавеку. На такіх, як ён, усё ў нас і трымаецца.

Так, уся стаўка ў «Шляху камуны» на тэхніку. Уражвае не столькі колькасць механізмаў (іх зараз у кожным калгасе нямала), колькі прадуманы падбор іх. На стане трактарнай брыгады я ўбачыў два камбайны для ўборкі цукровых буракоў. Без іх, сказаў старшыня, калгас не змог бы наогул вырошчваць гэтую культуру. Яна ж вельмі працаёмкая, і пры такой нястачы рабочых рук і распачынацца не варта было. Побач стаялі машыны для ўборкі, рассцілу і падняцця ільну. Я называю культуры, на вырошчванні якіх яшчэ і сёння ў многіх гаспадарках шырока ўжываецца ручная праца.

Поўнасцю механізавана ў калгасе вырошчванне і ўборка бульбы, сціртаванне саломы, механізаваны працаёмкія працэсы ў жывёлагадоўлі.

...Я прашу Міхайлавіча паказаць мне калгасную свінаферму Чаму менавіта свінаферму? У Капыльскім райкоме партыі я ўбачыў зводку, дзе супраць «Шляха камуны» стаіць лічба 170. Столькі цэнтнераў мяса на сто гектараў зямлі тут атрымалі летась. Гэта адзін з лепшых паказчыкаў у рэспубліцы.

Свінаферма — цэлы жывёлагадоўчы гарадок. Касінскі некуды адлучаецца па справах, і мяне бярэ пад сваю апеку загадчык фермы Мікалай Іванавіч Прымак — невысокі пажылы чалавек. З гонарам гаворыць, што працуе тут ужо дваццаць гадоў і за сваю працу ўзнагароджаны ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі. Праўда, гэта толькі апошнія гады ферма славіцца на ўвесь раён. Пачыналі з малога. Некалі на ўсёй ферме было 250 свіней. А летась толькі адкармілі і прадалі дзяржаве 1.250 галоў.

Гутарым мы ў чырвоным кутку. Куток гэты — вялікі пакой з тэлевізарам апошняй маркі, трумо, мяккімі крэсламі.

Потым загадчык водзіць мяне па ферме. Вось тут адкормачнікі, а гэта свінаматкі, а там маладняк.

— Усё механізавана, — тлумачыць Прымак, — прыгатаванне і раздача кармоў, уборка памяшкання. Некалі ў нас 7 чалавек даглядалі 250 галоў, а зараз гэтыя ж людзі даглядаюць 1.850 галоў.

Адна з жанчын, што завіхаецца ля станка, паднімае галаву:

— Чалавек падумае, калі тут усё механізавана, дык свінаркам застаецца толькі лынды біць.

— Каб білі лынды, дык не зараблялі б столькі, — усміхаецца загадчык.

— А колькі зарабляюць свінаркі?

— Ды больш як па дзвесце рублёў у месяц.—І ўжо калі выходзім, дадае: — Тая, што гаварыла з вамі, — Ядзвіга Сцяпура, лепшая наша свінарка. Летась яна на кожную свінаматку атрымала па 18 парасят.

Мы зноў на колах. Міхайлавіч задумаўся пра нешта сваё, маўчыць. Я скоса пазіраю на яго твар, які здаецца мне зараз пастарэлым і стомленым.

— Вы былі ўжо ў адпачынку?

— У адпачынку? — Касінскі ўсміхаецца. — Ды не, тут, у калгасе, яшчэ не быў.

— Як, зусім?..

— Ага. Не выпадае. Я ж завочна вучуся ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, сёлета, дзякуй богу, канчаю ўжо, дык на сесіі прыходзілася адрывацца, а на адпачынак ужо і не хапала часу.

— Можна задаць вам адно далікатнае пытанне?

— Калі ласка.

— Вы лічыце сябе шчаслівым?

Касінскі хвілінку маўчыць.

— Сказаць па-праўдзе, дык ніколі не думаў пра гэта. А наогул, відаць, так. Усё ў мяне ёсць — добрая сям'я: жонка, чацвёра дзяцей, вунь нядаўна дачку замуж аддаў. Работа па душы. Работу маю цэняць — нядаўна ўзнагародзілі ордэнам Леніна, яшчэ раней—ордэнам «Знак Пашаны». Я дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі. Гэта такі аванс, што ўсім жыццём не адплаціш.

...У канторы да Касінскага прыйшлі людзі, і ён, папрасіўшы прабачэння, ідзе займацца справамі. Я ж «патрашу» калгаснага эканаміста. Блакнот мой запаўняецца лічбамі — ураджай, даход, расход, будаўніцтва і г. д. Ага ж, я, здаецца, не сказаў яшчэ, што сёлета сабралі ў «Шляху камуны» па 25 цэнтнераў збожжа, 150 цэнтнераў дае бульба. Чысты грашовы даход складзе больш як 300 тысяч рублёў.

А вось надышла пара і развітацца. З Міхайлавічам выходзім на ганак. Мяне чакае калгасны газік. Я еду міма помніка ахвярам вайны — тры вялізныя фігуры з каменя, рука ў руцэ, суровыя твары глядзяць удалячынь. За імі некалькі вертыкальных белых пліт з імёнамі тых, хто загінуў пад кулямі карнікаў.

Хвалюючы помнік. Але самы лепшы помнік — жыццё, што расквітнела на гэтай зямлі, зямлі, так багата палітай крывёю яе сыноў і дачок.

На паваротцы я азіраюся. Старшыня стаіць на ганку, абкружаны людзьмі, нешта ім даводзіць.

Да пабачэння, Міхайлавіч, шчасліва вам крочыць па дарозе, якую сабе выбралі.

*ГОСЦІ МІНСКА*

## МЕЛОДЫІ АНДАЛУЗІІ



a Los Lectores de Literatura y Arte mi amistad Raphael 1972

З вялікім поспехам выступаў у беларускай сталіцы вядомы іспанскі спявак Рафаэль. Выхаванец вялікіх нацыянальных традыцый, ён праславіўся ў многіх краінах свету як неперавзыйдзены выканаўца — танцор, спявак, драматычны акцёр—цудоўных твораў іспанскага фальклору. З яго ўдзелам здымаюцца кінафільмы, выпускаюцца мільённымі тыражамі пласцінкі з запісамі яго выступленняў. Слухачоў вабіць чысты і гучны голас артыста.

У нашай краіне Рафаэль выступае трэці раз. Сёлетняя праграма яго гастроляў атрымала назву «Мелодыі Андалузіі».

Андалузія... Сонца ў блакіце. Колькі агню і экспрэсіі ў яе мелодыях! Гэта — споведзь узрушанага вялікім пачуццём сэрца, барацьба, каханне... І калі слухаеш Рафаэля, здаецца, промні андалузскага сонца асвятляюць народжаныя народам балеро і хоты, хабанеры і фламенка, качучы... Народныя іспанскія творы, якія выконвае артыст, гучаць у дасканалых аранжыроўках нацыянальных кампазітараў Сегур'е, Дэ лос Рыос, Гарсія, Лейка і іншых. Артыст не толькі спявае і танцуе, ён жыве ў вобразе таго героя, які зараз у мелодыі і пластыцы раскрывае свае пачуцці.

Па-майстэрску акампаніруе Рафаэлю эстрадны ансамбль з Масквы пад кіраўніцтвам С. Гарбатых.

Мы папрасілі артыста сказаць некалькі слоў чытачам «Літаратуры і мастацтва». Ён падарыў фотаздымак з надпісам: «Чытачам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» з любоўю— Рафаэль. 1972».

**Ул. ЯФРЭМАЎ.**

Лойка. Яго нататкі «Кувайце, кісцянёўскія зязюлі» змешчаны пад рубрыкай «Слова пра таварыша».

Багаты крытычны раздзел. Тут надрукаваны артыкулы Суфіяна Сафуянава «Плён нашага пабрацімства» пра ўзбекска-беларускія літаратурныя сувязі і Міколы Ермаловіча «Дружба народаў — дружба літаратур». Змешчаны таксама рэцэнзіі Янкі Саламевіча, Варлена Бечыка, Яўгена Лецкі на новыя кнігі.

## «МАЛАДОСЦЬ»

Народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка прапанаваў часопісу восем сваіх новых вершаў. Яны змешчаны ў пачатку нумара. У раздзеле паэзіі таксама новыя творы Рамана Тармолы. Пазнаёміцца чытач і з творчасцю маладога паэта Віктара Мурашкіна.

«Старая сасна» — так назваў сваё новае апавяданне малады празаік Генрых Далідовіч. Надрукаваны таксама апавяданні Алеся Асіпенкі, Паўла Місько, Міхася Даніленкі. Фёдар Янкоўскі прапануе ўвазе чытача свае «Абразкі». У перакладзе П. Стэфановіча змешчана аповесць польскага пісьменніка Густава Марцінака «Знойдзеныя скарбы».

З іншых матэрыялаў чытача зацікавяць нататкі інжынера У. Рабцава з калгаса «Радзіма» Глускага раёна, успаміны былога кіраўніка разведвальна-дыверсійнай групы на Гомельшчыне А. Духаніна, дарожны нарыс А. Гардзіцкага «Дзе сінеюць Карпаты».

Заслужаны настаўнік БССР С. Самушчаў дзеліцца сваімі ўражаннямі пра сённяшніх вучняў у артыкуле «Школьныя будні». Здзі Агняцвет расказвае пра творчасць народнага песняра Беларусі Якуба Коласа.

Пад рубрыкай «Кнігі і час» змешчаны рэцэнзіі Аляксандра Хазяніна на кнігу «Пераклаў Якуб Колас» В. Рагойшы і Алеся Марціновіча на першы зборнік апавяданняў Ул. Кузьмянкова «Ішла вясна».

## «БЕЛАРУСЬ»

Дзесяты нумар часопіса прысвечаны Расійскай Федэрацыі. Адкрываецца ён артыкулам намесніка старшыні Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру прафесара Ц. Саладкова «СССР — аплот міру і бяспекі народаў». Падборка «Пярэдні край навукі» расказвае аб тых пераўтварэннях, якія адбываюцца ў апошнія гады ў горадзе Обнінску, на старадаўняй Ноўгарадскай зямлі, ва Усходняй Сібіры.

Пісьменнік Мікола Грэднеў свой нарыс назваў «За палярным кругам». Пад рубрыкай «З паэзіі народаў Расійскай Федэрацыі» змешчаны пераклады вершаў А. Пракоф'ева, А. Твардоўскага, М. Джаліля, Д. Кедрына, З. Нуры і іншых паэтаў.

Беларускі пісьменнік Рыгор Хацкевіч жыве і працуе ў Днепрапятроўску. Нядаўна ён закончыў аповесць пра станаўленне Савецкай улады на Барысаўшчыне. Адзін з эпізодаў гэтай барацьбы на ўчастку чыгункі Прыяміна — Барысаў прапануецца ўвазе чытача. Змешчаны ён пад назвай «Прыямінскі тупік».

Рыгор Барадулін пераклаў некалькі вершаў азербайджанскага паэта Насімі, 600 гадоў з дня нараджэння якога спаўняецца сёлета, а Мікола Ракітны — апавяданне Ул. Лідзіна «Скрынка з акварэльнымі фарбамі».

## «НЕМАН»

«На пераклічцы дружбы» — так называецца падборка твораў паэтаў нашай краіны ў перакладзе на рускую мову. Часопіс знаёміць з 12 аўтарамі. Сярод іх узбек Н. Нарзулаеў, таджычка С. Гульчахра, калмык С. Каляеў, туркмен А. Атаджанаў і іншыя.

Вершы з новай кнігі прапануе Марк Лісянскі.

«Вясковыя навелы» Міколы Ракітнага пераклаў на рускую мову Л. Салавей. Цікавыя «Апавяданні мінулага года» Георгія Папова.

Праблемны артыкул напісаў Іван Пісарэнка. Называецца ён «Ці можна праграмаваць настрой». Ілья Ражкоў вядзе размову аб ідэалагічных дыверсіях («Дыверсія словам»).

Генадзь Будай у мінулую вайну быў адным з арганізатараў антыфашысцкага падполля ў Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці. Цяпер ён журналіст, галоўны рэдактар часопіса «Коммунист Белоруссии». «Так мужнела маладосць» — назваў аўтар свае ўспаміны, якія пачаў друкаваць часопіс. Пад рубрыкай «Запіскі, успаміны, дакументы» змешчаны таксама артыкулы П. Раківкага «М. К. Кальцоў і сучасная біялогія» і М. Мікешына «Аб рускім мастацтве і рускіх мастаках».

Мікола Гіль вялікі артыкул прысвяціў зборніку «Беларускія апавяданні», які выйшаў у мінулым годзе ў выдавецтве «Советский писатель». Рэцэнзуюцца кнігі А. Куляшова «Сасна і бяроза», «Кніга ста песень» К. Кірэенкі і іншыя.

Змястоўны раздзел «Чалавек і прырода».

Штэфан ХЭРМЛІН

# ЛЕЙТЭНАНТ ЙОРК ФОН ВАРТЭНБУРГ

*7 кастрычніка нашы сябры з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі адзначаюць свае свята — 23-ю гадавіну з дня ўтварэння першай у гісторыі Германіі дзяржавы рабочых і сялян. Разам з сябрамі святкуем гэтую дату і мы, шчыра задаволеныя іх вялікімі поспехамі ў палітыцы, эканоміцы, культуры.*

*Сёння ў памяшканні Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі ўрачыста адкрылася Дэкада кнігі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Шматлікія прыхільнікі літаратуры ГДР будуць мець магчымасць набыць навінкі выдавецтваў братняй рэспублікі.*

*Прапануем увазе нашых чытачоў апавяданне нямецкага пісьменніка Штэфана Хэрмліна ў перакладзе Васіля Сёмухі.*

У ЦЬМЯНЫМ, МІГАТЛІВЫМ мроіве жнівеньскай раніцы бледныя смертнікі моўчкі глядзелі на шыбеніцу пасярэдзіне пясчанага двара, адмураванага ад свету тоўстымі сценамі. Гэта былі некалькі афіцэраў з тых, што 20 ліпеня спрабавалі сваім неспадзяваным роспачна-наіўным мецяжом звергнуць дыктатуру, якая даўно закавала краіну ў цяпер ужо нязносныя кайданы і нарэшце ўвергла ў знішчальную вайну супроць усяго свету. Адзін змоўшчык, граф фон Штаўфенберг, хацеў знішчыць самаго тырана, які даў жыццё ўсяму рэжыму. Замах не ўдаўся, паўстанне ў сталіцы сарвалася таксама, змоўшчыкі, якія не палеглі ў перастрэлцы або не пакончылі з сабой, неўзабаве сталі перад так званым народным судом, бязлітасныя і фанатычныя суддзі якога прыгаварылі ўсіх да пакарання смерцю праз павешанне.

Восем афіцэраў, якія пасля бясконцых здзекаў і невыказных катаванняў выйшлі сустрэць смерць, былі людзьмі розных рангаў і ўзросту. Самы старэйшы, фельдмаршал, здабыў высокую славу за некалькі тыдняў кампаніі, у якой разбіў кепска ўзброеную і аслабленую здрадай французскую армію. Самы малады—лейтэнант граф Йорк фон Вартэнбург, якому было толькі за дваццаць, носьбіт славутага імя германскай мінуўшчыны, малады чалавек з каштанавымі валасамі і прыгожымі, цяпер ужо зусім пустымі ад затоенай жуды вачыма.

Йорк, які з той самай хвіліны, калі быў абяззброены і выдадзены азлобленай чорнай гвардыі дыктатара, убачыў, што аддаўся волі добра вядомай яму і, як здавалася, вартай пераадолення апатыі, праз якую ён уступіў у самае патаемнае, самае інтымнае паразуменне са смерцю, ужо тыдзень, як жыў у страшна пакутлівым нецярпенні і ліхаманкавай надзеі. Тыдзень таму ў кавалку хлеба ён знайшоў запіску, якую, глыбока ўсхваляваны, чытаў і перачытваў: «Вышэй галаву! Мы выручым цябе! Машына Верніке напагатове». Йорку здалося, што ён пазнаў руку барона Ф. Х., старога прыяцеля яго бацькі. Астатнія дні і ночы цяклі то хутка, то марудна, залежна ад таго, як ён маляваў сабе карціну вызвалення. Можа, мелася на ўвазе амністыя? Ніякая гіпотэза не здавалася настолькі бязглуздай, каб яе можна было адразу адкінуць. Хаця, прынамсі, апошні сказ у запісцы даваў падставы разлічваць на запланаваны напад. У разгарачаным уяўленні Йорка калідор ужо грымеў ад стрэлаў і тупату ног.

І вось усе яго спадзяванні канчаліся тут, за пяцьдзесят крокаў ад шыбеніцы, якая высілася перад ім у палахлівым святле жаўтаватага туману. З той хвіліны, калі ён сунуў у засмяглы рот і праглынуў скамячаную запіску, усё яго жыццё, яшчэ толькі дваццаціпяцігадовае, працівілася, нібы падагрэтае нейкім незвычайным пітвом, наканаванаму лёсу. Але дарма ён у гэтую хвіліну зваў, не мог дазвацца нядаўняй летаргіі.

Паходжанне, выхаванне і перыпетыі вайны прызвычаілі кожнага з гэтых людзей да думкі пра смерць, прадвызначылі адпаведныя паводзіны. Тое, што яны ў вільготным, нават зласлівым святле гэтай раніцы як бы марудзілі, жахаліся, менш за ўсё можна было аднесці на рахунак страху перад шыбеніцай, усё-такі злавесна-жудаснай. Хутчэй за ўсё яны адначасова зразумелі, што каты намераны ўчыніць над імі страшную помсту. Машыны, прызначэнне якіх яны больш угадвалі, чым ведалі напэўна, чакалі пад рыштаваннямі смерці, і каля іх снавалі, бы марыянеткі, постаці, мізэрна-нікчэмныя і нязначныя для паралізаваных страхам смертнікаў. У генерал-палкоўніка Х. вырваўся крык, на які канвойны, паслугач катаў, адказаў лаянкай і ўдарамі прыкладам. Афіцэраў загналі на машыны, надзелі на шыю кожнаму гароту, кальцо, якое можна было сціскаць і паслабляць спецыяльным вінтом. Іх смерць павінна была стаць тысячакратнай, тысячу разоў, перш чым трупы будуць ускінуты на шыбеніцу, яна павінна была адступацца, даючы глыток паветра і жыцця ў гатовыя разарвацца лёгкія.

Йорк адчуў, як яго ўвапхнулі ў блок, і адразу ж кальцо сціснулася на яго шыі. Вочы акругліліся і спалохана глядзелі паверх двара, на якім толькі-толькі пачаў падымацца туман. Больш выразна праступілі абрысы прадметаў і ў той жа час інфернальнае святло, што сачылася на іх, здавалася, паярчэла, разлілося, надаўшы ўсяму нейкае новае, таямніча-суровае значэнне. Ён адчуваў, як неадольна адыходзіць кудысьці яго прытомнасць, слізгаючы па ім, як вада па нагах плыўца. Горла здушыў неверагодны боль, Йорк не мог дыхнуць, у вушах стаяў нямоўчны шум, як прыбой на беразе. Ён чуў свой зацiснуты, зашчэмлены глыбока ўнутры жудасны крык, які слінай цёк з разяўленага рота па барадзе, і ён не мог бачыць свайго твару, які цяпер ужо быў не тварам, а толькі барвовай плямай, налітым крывёю языком, вылупленымі вачыма і зусім нерухомымі губамі. Ахвяры канвульсіўна тузаліся ў сваіх блоках, то тут, то там скрыпелі вінты, паслабляючы кальцо, і тады чуліся ўсхліпы і хрыпы пакутніка, які звар'яцела хапаў паветра.

Йорк, як сляпы, кідаўся недзе паміж перадпеклам і пеклам. З глытком паветра часам вярталася прытомнасць, страшна ясна давала адчуць слодыч некалькіх секунд, імгненняў, калі паветра свабодна ўлівалася ў лёгкія. Ён не заўважаў, што плакаў. Праз слёзы і пот часам выхопліваў вачыма двор, над якім цяпер застыла ранішняе сонца. Потым пясчаная пляма, на якую ён глядзеў, расплывалася, нібы доследны аб'ект пад лінзай мікраскопа, аж пакуль, як яму здавалася, ён не разгледжваў асобных пясчынак, востра і рэзка абазначаных, у гранях якіх вясёлкай адбівалася святло.

І кожны раз вяртаўся шум прыбою, боль у шыі, задыхлівы хрып спаласаваных нажамі лёгкіх, і кожны раз зноў пачыналі пабліскваць язычкі ўсёвынішчальнага полымя. Ён не ведаў, як доўга ўсё гэта цягнулася. Можа мінулі гады з таго часу, як яго ўштурхнулі ў гэты блок. Свядомасць, блукаючы і паміраючы, прагнула толькі тых некалькіх секунд, калі паслабляўся вінт. У нейкі пэўны момант, калі кальцо зноў сціснулася, але яшчэ не зусім перацяло дыханне, яго замутненая, перарывістая памяць адзначыла перамену. Яго вочы былі заплюшчаны. Але ён ведаў, што яму далі незвычайна многа часу для дыхання. Прайшла цэлая вечнасць, перш чым ён зразумеў, што вінт закручаны не да канца. Йорк занадта слабы, каб адкрыць вочы. Праз шум прыбою, здавалася, ён чуў новыя, ніколі раней не чутыя гукі, нейкае пляскатае водгулле і хруст, неразборлівыя крыкі, словы. Ён спалохаўся ўсёй істотай, калі нешта заскуголіла каля самага вуха. Гэта быў чалавечы голас і ўсё-такі не чалавечы, але Йорк ніяк не мог ухапіць сэнсу таго, што там нехта крычаў.

Калі ён намогся і адкрыў павекі — адчуваў бязмежную, ледзь адольную змору,—убачыў, што нешта каля яго не так. На плямцы пяску, пасярэдзіне якой ён стаяў, ляжала некалькі чалавек, і, пільна прыгледзеўшыся, ён зразумеў, што гэта былі целы верных сатрапаў дыктатара. Йорк чотка разгледзеў нават асобныя дэталі іх уніформ. Крыху пазней, калі за плячыма і побач грымнула некалькі стрэлаў — гэта было тое водгулле і той хруст, што пачуў непрытомны, — яго схапілі, вызвалілі з блока і волакам, пад пахі, пацягнулі двое, чыіх твараў ён ніяк не мог распазнаць. Тыя некалькі метраў на пяску здаліся бясконцымі, ён глядзеў на фантанчыкі пылу пад нагамі, боль у горле забіраў ледзь не ўсю памяць, у скронях цяжка і рэзка стукала кроў. Йорк прыслухоўваўся да галасоў, якія, то далей, то бліжэй, крычалі і гаварылі загадныя, абрывістыя і пагрозлівыя, але ўсё яшчэ незразумелыя словы.

І раптам ясна пачуў каля сябе: «Хутчэй, лейтэнант! Мы павінны паспець!» Голас быў прыязны, і пакуль Йорк, паволі цверазеючы ў розуме, сіліўся нешта ўспомніць, яго вывалаклі за браму, праз вуліцу да нізкай шэрай закрытай машыны; адразу загуркатаў матор. Пасля яго мякка і няўлоўна панесла, па целе зноў разлілася абыякавасць, яна расплывалася па ім, як кругі па вадзе. Час ад часу вярталася памяць, перад ім мільгалі сельскія дарогі, сасновыя пералескі, сяляне на полі. У жаўтлявым папалудзенным святле ён убачыў, як машына збочыла на вузенькі лясны прасёлак, пакацiла, падскокваючы на карэннях і ў выбоінах, пасля стала каля леснічоўкі. Верніке і яшчэ нейкія людзі беражна ўвялі лейтэнанта ў дом, дзе яму прыгатавалі кавы і сякі-такі падсілак. Сказалі толькі некалькі слоў, але Йорк быў удзячны і за іх. Потым далі ўніформу з адзнакамі больш высокага рангу і паперы на імя маёра Б. з ...скага артылерыйскага палка. У кішэні фрэнча Йорк намацаў рукаяць пісталета. Гледзячы па-над сталом, ён раптам убачыў у люстэрку свой твар, спалохаўся запалых вачэй і кволенькай загадкавай усмешкі, якая скрывіла яго вусны. Як зачараваны, ён глядзеў у люстэрка, у яго твары нешта ўсё-такі яшчэ варушылася, жыло, лёгкае воблачка праплыло па ім, зазасціла ўсё, і Йорк адвярнуўся.

У машыне Верніке накрыў яго ногі коўдрай, і на нейкае імгненне Йорк убачыў на каленях слугі халодную, цёмную сталь аўтамата. Яны паехалі ў цемру, Йорк не пытаўся, куды. Ён адчуў у сабе каліва свежых сіл, супакоіўся, нягледзячы на боль у шыі...

Спакваля насунулася ноч. Йорк патануў у лёгкай, ліхаманкавай дрымоце, але ў вушах усё яшчэ гучалі пяшчотныя словы і шум сутычкі, а перад вачыма плылі марскія абсягі, зваяныя вочы катаў і цені на пасыпаных жвірам сцежках. Нешта яго зноў занепакоіла, свідравала, але ён не мог уразумець што, нават не знаходзіў слова для гэтага; прачнуўся з халодным потам на лбе. Якраз мінулі браму і ўехалі ў двор, збоку якога высіўся фасад масіўнага будынка. З некалькіх вокан падала святло на лесвіцу ганка, перад якім яны спыніліся. Йорк прачнуўся зусім і ліхаманкава стараўся ўспомніць, калі ён быў у гэтым двары, але тут у адчыненых дзверцах машыны паказаўся твар бацькавага сябра, барона Ф. Х. Неадольны страх і радасць напоўнілі сэрца Йорка. «Петэр!» — ціха сказаў барон.— Калі ласка, у мой дом!» Потым падаў руку і дадаў: «Тут яшчэ нехта чакае цябе»,—і ўсміхнуўся дабрадушна-хітравата Йорку які недаўмёна глядзеў на яго.

Абапіраючыся на руку барона, лейтэнант, як у сне, падняўся па лесвіцы. Аб яго ногі цёрся сетэр, праз туман раптам наплыўшых слёз убачыў свяцільнік над дзвярыма. У пакоі, які ён добра ведаў, яму паслалі пасцель, яго вочы ў глыбока-радасным здзіўленні блукалі па карцінах на сценах, па кнігах, кабінетным раялі, свечках на стале.

Слуга і Верніке бразгалі посудам у суседнім пакоі. Барон сказаў нешта ціха і выйшаў. Йорк стаяў каля акна і разглядаў у ім свой няясны адбітак. Цеплыня маленькага, вузкага пакойчыка размарыла яго, усё цела балела і ныла, каўнер фрэнча сціскаў горла. Йорк ведаў, што ён цяпер адзін. Ён бачыў перад сабою твары сваіх спадарожнікаў, усмешлівыя, заклапочаныя, застылыя ў зняменні і жаху. Ясны твар генерал-палкоўніка Б. усплыў перад ім, з заплюшчанымі вачыма, васкова-жоўты, апалы на біло крэсла за пісьмовым сталом, якраз у той момант, калі ў калідорах дома на Бэндлерштрасэ выбухнула запозненая граната. Йорк выразна бачыў кольцы дыму тлеючай цыгарэты, нітачку крыві, якая цякла з-пад коратка пастрыжаных валасоў генерал-палкоўніка. Нават калі яго білі па твары кулакі верных ураду салдат, ён усё яшчэ бачыў завостраны твар генерал-палкоўніка. Нават паспеў схапіць слыхам нейкія няясныя, прыдушаныя шолахі ў доме. Стоячы перад акном, якое слепа ўзіралася ў ноч, Йорк разглядаў свае такія чуткія да болю скроні, плечы, якія уніформа крыху адцягвала назад. Нават не ўзнаўляючы ў памяці ўсіх падрабязнасцей падзей апошніх гадоў, ён адчуваў у гэтую хвіліну на сэрцы цяжар марудная чакання, скаванасці і напружанасці, ведаў, што сілы яго даходзяць да апошняй крайнасці.

Йорк, думаючы пра гэта, убачыў на сабе касы пагляд нейкага француза без шапкі, невядомага ўзросту, якога з сямю іншымі правялі міма на расстрэл. Жніўеньскі дзень быў сіні. Йорк глядзеў на зубцы лесу, што сінелі ўдалечыні, на запылены тратуар, які прабіўся праз брук вясковай вуліцы, чуў крокі і ведаў, што іх вялі на лясную прагаліну. Зірнуўшы ў твар арыштаванага, ён згубіўся ў халодных, светлых вачах, вострых, крыху раскосы пагляд якіх быў па той бок адчаю, незвычайна паглыблены, пранікліві і ўсёведны. І ўсё гэта толькі некалькі імгненняў — як магло стацца, што тыя вочы так выразна аселі ў памяці Йорка? Яму раптам здалося, што з той хвіліны ён стаў празрысты, хоць глядзі наскрозь, што быў як бы голы перад усім светам. Ён не заўважаў у сабе ніякага руху, толькі працінала нутро нейкая незвычайная яснасць, якая і мардавала і распірала яго. Не варушачыся сказаў у акно: «Так нельга жыць!» У адказ пачуў уздых. Ён рэзка павярнуўся і ўбачыў каля стала Ганну. Неасцярожны рух прычыніў рэзкі нясцерпны боль у галаве і патыліцы. Схапіўшыся аберуч за шыю, ён успомніў словы барона. Ганна, якой ледзь споўнілася дваццаць, была нявеста Йорка, дзяўчына саладкай і кволай прыгажосці. Далёкім позіркам глядзеў на яе праз увесь пакой.

«Петэр!» — натужліва сказала яна.

Ён павольна ступіў некалькі крокаў. Уважліва прыглядзеўся. Гэта была Ганна, якая мелася стаць яго жонкай. Смутна і як бы на крыўду прыгадаліся пэўныя захады старэйшых сваякоў, якія асуджалі яго выбар,—дзяўчына будзе, калі ён, Йорк фон Вартэнбург, абярэ мяшчанку, няхай сабе і дачку саветніка кансісторыі, але ж мяшчанку. Яна глядзела на яго, а ён усё яшчэ не вымавіў ні слова.

«Петэр!» — паўтарыла Ганна. На вочы адразу набеглі слёзы. Ён спахапіўся, што любіць яе, пацалаваў. «Усё добра!» — сказаў, услухоўваючыся ў свой занадта зычны голас. «Усё! — паўтарыў яшчэ раз і адвярнуўся. Павольна пайшоў уздоўж сцяны. — Яны якраз паспелі». І тут успомніў, што, зрэшты, нічога толкам не ведаў пра сваіх аднадумцаў. Дагэтуль неяк у галаву не прыходзіла пацікавіцца іх лёсам. «А астатнімі? — спытаў ён, спыніўшыся.— Што сталася з астатнімі?» Яна глядзела на яго. Мусіць не разумела.

Дзверы адчыніліся. Увайшоў барон са слугою, які падаў паднос.

«Чым магу быць карысны?»

«Што з астатнімі?» — спытаў Йорк барона.

Барон, які быў намерыўся сесці, ускінуў павекі. Потым адказаў, ухіліва, нібы нават няшчыра. Йорку ўсё яшчэ балела шыя, цяпер вельмі востра. Атмасфера за сталом, здавалася, пачынала згушчацца, злавесна і пагрозліва цьмелі свечы. Лейтэнант лавіў словы барона і не разумеў іх, але нешта стрымлівала яго, каб не паўтарыць пытанне. У яго недаўменных вачах зноў завярушылася раптоўная жуда, і яму здалося, што перад ім не барон, а міфічны базыліск. Твары людзей насупраць замітусіліся, расплыліся. Нават прыгадаўся эпізод з «Серапіёнавых братоў», дзе адзін чалавек робіцца падобным на ліса, а пасля зноў на чалавека. Йорк апёрся лбом на далоні.

Калі зноў падняў вочы, імглісты прывід знік. Йорк пасміхнуўся з сябе. Мусіць, трэба было зрабіць скідку на змораннасць. Яму раптам вельмі захацелася пабыць на самоце, пагасіць святло, заснуць моцным здаровым сном.

Елі моўчкі. Слуга прыняў посуд і прынёс пляшку «кіршу». Ганна нерухома сядзела за шклянкай віна,

Друкуецца са скарачэннямі.

ледзь прыгубіўшы. Пакуль Йорк закурваў цыгарэту, барон гаварыў кароткімі, катэгарычнымі фразамі пра ваеннае становішча.

«Мы пачалі занадта позна. Мужнасць, якая ўзнясе нашы імёны на бронзавыя скульптуры ў гарадскіх садах і запіша на старонкі школьных падручнікаў, пакідала нас кожны раз, калі была найбольш патрэбна. Паверце мне, Петэр,— усюды толькі проры і цясніны. Адзін раз я ўжо бачыў, як яны кідалі кепска ўзброеных падлеткаў у вогненную пашчу. Кожны дзень гіне, распадаецца горад. І кожны дзень цені двухсот заложнікаў падаюць на белыя ў паўдзённым сонцы муры. Хто нам паверыць, што мы не хацелі гэтага? Я шмат перадумаў і прыйшоў да заключэння, якое, можа, табе і людзям з твайго асяроддзя здасца дзікім, непрымальным. Мы былі тупыя і бяздушныя...»

Йорк паглядзеў на яго. Барон гаварыў напаўголаса, з доўгімі паўзамі паміж сказамі. Яго правая рука мерна ўзмахвала над сталом, направа — налева.

«Тупыя і бяздушныя. А можа проста баязлівыя. Сярод нас ці не занадта развялося баязліўцаў з жалезнымі і рыцарскімі крыжамі на грудзях. Чаго нам не хапае — гэта здольнасці зноў паставіць пытанне».

Ганна не прамовіла ні слова, яна сядзела, панурыўшыся. Йорк слухаў словы свайго сябра, і яны западалі ў яго вушы, шумелі, як марская вада.

«...зноў паставіць пытанне. Але хто яго паставіць? Сярод нас ні ў каго не хопіць мужнасці. А магчыма бракуе здольнасці, патрэбнай, скажам, для ўразумення духоўнай вастрыні? Тое, што мы называем мужнасцю, можа, усяго толькі пэўная сума нашых здабыткаў у разумовай культуры. Праўда, у нас былі Зутнер, Шэнайх, Герлах... Але я не магу проста так адвяргаць вайну...» Барон устаў. «Астатнія, Петэр... Бачыш вось, астатнія, я кажу гэта, ведаючы, што... Тыя ў Парыжы, Лондане, Маскве: яны маюць рацыю са сваёй вайной».

Йорк зноў амаль не слухаў. Перад яго вачыма праплывалі карціна за карцінай, як складкі заслоны, невыразныя, але чароўныя і дзівосныя, пераліваючыся ў колерах, як карэльскае паўночнае ззянне. І музыка нейкая. Адкуль гэтыя далёкія гукі трубы? Уверцюра да «Леаноры». У нейкім залацістым мыраве перад ім калыхаліся карыятыды Берлінскай філармоніі, люстры...

Йорк насцярожана маўчаў. Ён прагна лавіў імёны людзей, што далятаў да слыху: цяжкае дыханне барона, крокі ў калідоры, якія глуха набліжаліся і праходзілі далей, нейкі спакойны і пусты бой гадзінніка.

«Зноў паставіць пытанне: гэта значыць — айчына, абавязак, гонар, прысяга — перажыць усё гэта яшчэ раз, яшчэ раз пачаць нанава думаць. Высадзіць, нарэшце, заклятыя дзверы: боязь прадчування, неабходнасці думаць, вечныя страхі за прывілеі... Гэтымі тыднямі я чытаў Мішле. Ты ведаеш, што такое чацвёртае жніўня? Гэта пачварная, хімерная ноч, якая патрэсла ўвесь свет, ноч, якая ператварыла графаў і баронаў у грамадзян краіны, у сыноў нацыі, што пачала рабіцца першай нацыяй, таму што змагаецца за свабоду ўсіх нацый».

Барон устаў, твар яго перасмыкаўся. Збянтэжаны Йорк заўважыў гэта.

«Такою была Францыя!.. А мы? Нашы пацяробкі з СС расстрэльваюць харкаўскіх дзяцей. А тыя маюць рацыю, паўтараю. Сесці за адзін стол з дэпутатамі рэйхстага—камуністамі... Як далёка ўсё павінна зайсці, каб наш брат мог палічыць гэта натуральным. Я чуў, як яны гаварылі. Ціха, паслухай...»

Барон устаў, падышоў да радыёпрыёмніка, пашукаў станцыю. Прыёмнік шумеў, потым выразна прабіліся пазыўныя станцыі... Бог, які прымусіў расці жалеза... Йорк убачыў перад сабой школу. Ён не хацеў мець рабоў. Рабы... Трэба падумаць. Мы павінны прайсці па калені ў крыві, перш чым пачнём думаць.

«Зноў глушаць». Апарат трашчаў і выў. Барон выключыў прыёмнік і адышоў назад. «Прабач. Я зусім не думаю пра цябе. Табе трэба выспацца. Тут ты ў бяспецы пад маім дахам, Петэр. Хто ведае, як надоўга? Скора пойдзеш далей. А пакуль спаць — і не думай пра заўтра. Спакойнай ночы».

Ён выйшаў, пацiснуўшы Йорку руку. Йорк прайшоў у адведзены яму пакой. Ганна ціха сказала: «Добрай ночы»,— за ўсю трапезу яна не вымавіла ні слова. Йорк уздыхнуў, паволі раздзеўся, зачыніў на засаўку дзверы і пагасіў свечку. У цемнаце намацаў нешта — успомніў — пісталет, паклаў на крэсла, падсунуўшы яго да ложка. Седзячы каля акна, ён глядзеў паверх старонак адкрытай кнігі, лунаючы паглядам аж да зубцоў далёкага лесу на небасхіле.

Часам з ім заставалася Ганна. Ён амаль не гаварыў з ёю, толькі падоўгу трымаў яе руку ў сваёй. Глядзець у акно ён любіў змалку, у пераменлівым дзённым святле ў яго сэрца зноў бурна наплывалі колішнія буры і прадчуванні. Вунь цераз тыя пагоркі і праз сiняватыя лясы трэба было выйсці на шырокую дарогу, якая звонкім ад пчалінага гуду лугам вяла аж да мора. Йорк ведаў гэту дарогу лепш за ўсё, што цяпер называлася словам «сёння», больш прачула, чым невыказную жуду, якая ў апошнія гады пасялілася ў ім самім. Каля насыпу ўсё яшчэ рос дрок, у цяню якога ён колісь чытаў «Мальтэ Лаўрыда Брыге» * пад прыветныя крыкі чорных ад сажы качагараў, якія махалі яму з паяздоў, што праляталі міма...

Карціны маладосці як бы ўсплывалі і ў яго памяці, прагулкі вярхом па шчабятлівым лесе, коні, якія спатыкаюцца на крутых спадах дарогі, беспрычынныя рыданні ў калені маці, якая ні пра што не пытала, але ўсё ведала.

...На чацвёрты ці пяты дзень барон перадаў яму, што гестапа сваімі вышпігамі дабралася ўжо да суседняга маёнтка, што трэба збірацца ў дарогу. Ён дадаў, што ўсё зроблена як след, каб пераправіць Йорка ў зусім бяспечнае месца. Поўны смутных прадчуванняў, Йорк спытаў, у якое месца барон намерваўся пераправіць яго. Той адказаў, што цяпер толькі адно месца надзейнае, адзін ратунак: перайсці фронт на ўсходзе і ўцячы ў Расію, дзе ён, вырваўшыся з лап смерці, знойдзе сувязь з паўстанцамі-генераламі. Сэрца Йорка забілася радасна і крыху трывожна, калі ён спакойна дзякаваў сябру. Барон запэўніў, што ўсё падрыхтавана як мае быць, ад'езд назначаны на другі дзень, пераход Віслы, лічы, забяспечаны. Калі праз некалькі гадзін пасля — ужо змяркалася — да яго зайшла Ганна, ён хутка рушыў ёй насустрач, каб сказаць ёй пра ад'езд. Але яна схіліла галаву, даючы тым знаць, што ўсё ўжо ведае. Ён правёў яе да крэсла каля акна. «Думаю, гэта будзе самае лепшае для цябе»,— сказала яна проста. Ён, схіліўшыся, бачыў яе юную і крыху кідкую прыгажосць. Кантраст паміж цёмнымі валасамі і сінімі, вельмі палкімі вачыма, яе амаль празрыстая скура зачаравалі яго яшчэ раней, яе ледзь улоўная панурасць, як бы нявыказаная туга ажыўляла яго ўспаміны, абуджала балючае шкадаванне. Ён глядзеў на яе пакатыя плечы, прыгожыя шчокі, бледныя скроні і адчуваў у сабе прыліў пяшчотнага замілавання.

Потым сэрца зноў упала, налілося санлівай журбою, калі падумаў, што любіць гэтую такую далёкую, такую блізкую і цяпер ужо амаль недасягальную істоту.

Пакуль гаварыў да яе, пакуль даказваў ёй непазбежнасць сваіх уцёкаў, адчуваў, што яна адплывае ад яго. Беззваротна адплывае, думаў ён і не ведаў, ці вымавіў гэтыя словы ўголас. Здавалася, нібы яе твар расцёкся белай пенай, размыліся рысы, і ён нават не мог іх уявіць у памяці. «Можа,— думаў,— Ганна толькі ўвасабленне жыцця, з якім я павінен развітацца назаўсёды. Выслізнуцца раз і другі, расплывацца невідзімкай — толькі гэта мая будучыня: пераўтварацца, забывацца — і бясконцая немарасць».

Ён не здзівіўся, калі раптам пачуў яе голас, больш гучны і рэзкі, чым раней. Праз імглу рысы яе праясніліся, акрэсліліся. Ён нават перачакаў нейкае імгненне, пакуль да яго дайшоў сэнс яе слоў: «Не ідзі туды, Петэр! — пачуў ён. — Я ведаю, ты ніколі не вернешся да мяне... Чаму б табе не перабрацца на каторы час у О...? Там ты будзеш жыць нікім не апазнаны, і ты ведаеш, там у цябе руплівыя, надзейныя сябры»...

Ён ужо знаў, што кахае яе да болю, да адчаю, але павінен пакінуць і можа ўжо ніколі з ёю не пабачыцца. Яна павярнулася да яго тварам, глядзела, як дзіця, што хоча зразумець нешта цяжкае, а яго погляд, як у глыбокую шахту, кінуўся ў вочы яе, і падаў, падаў; перад ім мільгалі, нібы пласты пароды, чужыя, незнаёмыя твары — маладыя і вельмі маладыя, прывабныя, недаўмелыя, збянтэжаныя, дабрадушныя і небяспечныя. У яе прыгожых, слабых, адданых вачах ён бачыў сябе як бы змушаным да вялікай непамыснай здрады і ў той жа час усведамляў, што ёй, як і яму, наканавана ранняя, заўчасная смерць. А калі ў зацятай жудасці, ужо авеяны крыламі засцерагальнага адкравення, адступіў крок назад, то зноў убачыў яе першародны, існы твар, спалоханы, умольны, і яму стала бясконца шкада яе. Ён пяшчотна апусціў яе ў крэсла, з якога яна толькі што ўстала, вярнуўся да адчыненага акна, сеў на падаконнік, абхапіў рукамі адно калена. Гледзячы ў залаты, струменны вечар, адчуваў у сабе спакой поўнага адрачэння, і яго вочы на крыху адкінутым назад твары глядзелі на далёкі лес. У пацямнелым блакіце паказаліся першыя зоркі.

На другі дзень, калі ўсе сядзелі за сталом і бліскучы двор скамянеў у іскрыстым святле палудня, Йорк ад'язджаў з Верніке і давераным барона. Барон моўчкі абняў яго, рука Ганны на момант халодна і суха дакранулася да яго вуснаў.

Яму толькі што перадалі фальшывыя паперы. Нават знакі на уніформе перамeнены. Дакументы былі выпісаны на імя нейкага обер-лейтэнанта Р. з штаба армейскага корпуса, што вяртаўся са службовай паездкі ў Берлін на службовую кватэру недзе ў раёне Сандамежа. Другая была і машына. Яны ехалі цэлы дзень аж да ночы, спалі ў машыне, забіўшыся ў кусты, і на другі вечар былі недалёка ад Віслы. Йорк не ведаў тутэйшых мясцін. З нейкай несамавітай абыякавасцю ён даверыўся праваднікам і амаль не задаваў ніякіх пытанняў. Каля дзесяці вечара спыніліся з пагашанымі фарамі на ўзлессі, і неўзабаве да іх выйшлі двое. Абодва, унтэр-афіцэр і старшы фельдфебель, суха павіталіся, але стомлены Йорк нават не разабраў слоў. Яны селі ў машыну, унтэр-афіцэр за руль, і праехалі яшчэ некалькі кіламетраў з выключанымі фарамі. Поўны месяц толькі зрэдзь прабіваўся на паверхню калыхлівага мора цяжкіх хмар. Сям-там прасвечвалі зоркі і зноў танулі ў чарноцці. Міма прагрукатала некалькі танкаў, за імі палявая амбулаторыя. Недзе недалёка сакаталі аўтаматы (як дразды, падумалася Йорку). Далёка наперадзе бухала руская артылерыя. Час ад часу па-над далёкімі вершалінамі дрэў, ахутаных змрокам, прабіваліся пунктіры трасіруючых куль.

Яны звярнулі з дарогі, паехалі па выбоістым прасёлку. Адзін раз у цемнаце Йорк разгледзеў ствол гарматы, пачуў у лесе працяжны крык: «Батарэя!» — і адразу ж уздрыгнуў ад грому стрэлаў. Пасля яны выйшлі з машыны, Йорк развітаўся са сваімі праваднікамі і, абмацваючы рукамі зямлю, спусціўся берагам да ракі, яго падтрымліваў унтэр-афіцэр. У цемнаце яны знайшлі лодку, адштурхнуліся і праз некалькі мінут пачулі, як кіль шкрабануў па пяску. Унтэр-афіцэр шапнуў Йорку некалькі слоў і знік з лодкай. Йорк прыслухаўся да ціхіх усплёскаў вясла, спатыкаючыся, палез уверх на бераг, пакаўзнуўся на сырой гліне, балюча выцяўся плячом аб нейкі корч. Угары трохі пастаяў ціха, парывы моцнага ветру наляталі з невядомасці, асвяжалі яго ўспацелы лоб. Як начны бадзяга, ён пайшоў у цемру. Не зважаў на дарогу і анямеў, пачуўшы перад сабою вокліч: «Стой!» Каржакаваты чалавек з аўтаматам падышоў да яго. «Дазорны!»—сказаў Йорк. І раптам усміхнуўся.

У бліндажы яго прыняў дзяжурны. На запэцканай глінай форме Йорк разгледзеў у святле свечкі ўзнагароды. Гаварылі па-англійску. Потым рускі падышоў да тэлефона. Йорк сядзеў на сваім месцы і чакаў, пакуль афіцэр не падняў яго. Пасля кароткага допыту яго зноў пасадзілі.

Наступныя дні былі заняты паездкамі. Йорк адчуваў сябе вольна, але быў стомлены, яго апанавала нейкая дзіўная санлівасць, апатыя. Падчас размоў праплывалі твары, але часам прачынаўся зусім і дрыжаў ад хвалявання, нібы перад ім гатова была адкрыцца вялікая таемнасць.

Велізарная краіна праплывала міма яго пыльнымі дрогкімі дарогамі. Спустошаныя калгасы. У белажоўтых палях ляскаталі жнейкі. Нейкі няспынны паток танкаў, гармат, пантонаў цягнуўся на захад. На вясковых вуліцах стаялі дзеці і махалі рукамі. Праязджалі праз разбураныя гарады. І ўвесь час Йорк быў у нейкім дрымотным забыцці, пакуль аднаго дня не пачуў слова: «Масква».

Йорк убачыў вуліцы і будынкі, вядомыя яму па здымках. У яго свядомасці як бы адбіліся малюнкі: хусткі жанчын, уваход на станцыю метро, правады электрастанцыі; рубінавыя зоркі на вежах Крамля, які ён разгледзеў, праязджаючы на машыне. Ён яшчэ ніколі не бачыў такога бурлівага горада і са злоснай усмешкай успомніў паведамленні газет, якія пісалі, што варожая сталіца дашчэнту разбурана нямецкімі налётамі. У нейкім пакоі перад ім стаяў генерал, продак якога калісьці разбіў вялікага Фрыдрыха. Ён бачыў такія блізкія яму цяпер ваенныя мундзіры, строгія, напружаныя твары, яго прадстаўлялі нейкім мужчынам, імёны якіх ён раней не адважваўся называць уголас; дзеячы партыі, якія здаваліся яму сінонімамі выгнанцаў з бацькаўшчыны і крамольнага зла. Глыбока расчулены, ён слухаў, як гэтыя людзі называлі рэчы сваімі імёнамі, якія ён асмельваўся хіба толькі прамовіць у думках, і з вялікім здзіўленнем пераконваўся, што ў іх, аказваецца, такія ж самыя клопаты і трывогі, як і ў яго, толькі што яны загадзя ўсё ведалі, усё прадумалі і рашылі. Ён думаў пра свае ваганні, свае сумненні, і цяпер ледзь мог зразумець самога сябе. Яны выслухалі яго паведамленне. Яму было цяжка гаварыць, называць імёны, часам зноў у ім усё пераблытвалася, мяшалася. Змора ніяк не адступалася, хаця ён і быў радасны, вясёлы, бясконца шчаслівы. Вельмі рэдка ўспамінаў пра свае ўцёкі, з вялікай натугай прыгадваў часам Ганну або барона. Час зусім стлуміў яго, ён не лічыў дзён, тыдняў, месяцаў, яго зусім не здзівіла, калі выпадкова даведаўся, што ўжо прайшоў год, як ён тут. Здавалася, нібы яго закруціў вірам нейкі магутны рух, як летуценніка на лодцы. З гэтага руху ўзнікала час ад часу чыё-небудзь аблічча, размова, пытанне, мясціна, дзе ён спыняўся. Часам, неасцярожна павярнуўшыся, ён адчуваў боль у шыі, але акалічнасці, пры якіх яму гэты боль быў прычынены, успамінаў неахвотна і як бы праз нейкі туман.

Бывала, што рух вакол яго вырастаў, як ураган. Толькі паступова Йорк здолеў асэнсаваць усё ўзрушэнне вакол сябе, і, спачатку з недаверам, пасля з дзікай радасцю даведаўся, што радзіма паўстала. Мяркуючы па паведамленнях, паўстанне пачалося адразу амаль ва ўсіх канцах Германіі і было падтрымана самымі рознымі пластамі народа. Рабочыя аб'ядналіся з вывезенымі рабамі, захапілі шахты і заводы, сяляне ў Одэнвальдзе і Шпесарце, узброіўшыся косамі і матыкамі, рушылі паходам на гарады, у сталіцы ўсеагульная забастоўка, радыёстанцыя занята паўстанцамі. На асобных участках фронту ўзбунтавалася армія і выступіла супраць прэтарыянскай гвардыі дыктатуры.

Дом аж дрыжаў ад таропкіх крокаў, загадаў, воклічаў. Неўзабаве саюзныя галоўнакамандуючыя аб'явілі ў сумеснай адозве да сваіх войск аб пачатку агульнага наступлення на ўсіх франтах.

Ноччу Йорк з другімі афіцэрамі ўжо спяшаўся на захад. На вуліцах горада калыхаліся цёмныя шумныя натоўпы людзей, залпы салютаў шматгалосым рэхам адбіваліся ад сцен камяніц.

Йорк адчуваў шчасце, як магутную надзейнасць. Стома, якая ніколі цалкам не пакідала яго, прымушала гаварыць. У такія хвіліны яму хацелася быць бліжэй да людзей, разумець іх так, як ён разумеў жыццё, напоўненае вялікім сэнсам. Яго сусед усміхнуўся яму. Йорк разглядаў шыбу машыны, на якой збіраліся кроплі дажджу і зрываліся ветрам.

«...і бярэ лёс таго, хто пакутуе і бачыць пакуты...» — сказаў ён уголас. Сусед павярнуўся да яго і закончыў фразу, усміхаючыся з прыглушанай сур'ёзнасцю: «...і бярэ сэрца народаў».

Машына раптам рэзка паварочваецца. «Куды?» — думае Йорк, а нейкая неадольная сіла тым часам цісне яго направа. Няўжо нельга спыніцца? Ён адчувае страшны, бясконца доўгі штуршок, які асляпляе яго і не хоча гаснуць...

Йорк зусім ачуняў у апошнюю страшную хвіліну свайго прытомнага існавання. Убачыў шырокую пляму пяску, пазнаў яе, нарэшце. Яна не была ўжо рыжа-чырвоная, а нейкая шэрая, нібы ніколі не было сонца. Значыцца, ніхто яго не вызваляў, ён не гаварыў з Ганнай і баронам, не ўцякаў у вялікую краіну, дзе зразумеў усё да канца: гонар, вернасць, абавязак, радзіму. І значыцца, не вяртаўся...

На парозе смерці ён не адчуваў больш ні болю, ні страху. Смерць разбудзіла яго занадта позна. На бязлітаснай белесаватасці каля яго ног калыхаліся цені. Ён быў апошні, каго яны павінны былі ўскінуць на шыбеніцу, як цяжкі, цёмны сцяг.

Бясконцым позіркам ён акінуў двор. Прыйшла пара зрабіць вялікі крок. Гледзячы ўбок, убачыў руку свайго ката на вінце. Нібы пад лінзай, яшчэ раз, падняўся жорстка-дзікі ландшафт гэтай рукі да яго вачэй. Ён убачыў чорныя валасы, як прасечаны хмызняк, брудныя ямінь пор, шыферныя сажалкі парэпаных пазногцяў, шнары і маршчыны, як іерогліфы подласці, нізасці і безуцешнага жыцця.

Але ўжо нішто не дасягала яго. У ім не было ні болю, ні расчаравання. Ён быў зусім адзін, і на руку якая вось ужо і пачала паварочваць вінт, яго спакойны погляд кінуў апошні водбліск гарадоў, людзей, пачуццяў і вобразаў забыццёвага жыцця.

* Раман Райнера Марыя Рыльке «Запіскі Мальтэ Лаўрыда Брыге».

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Іван КІРЭЙЧЫК




УСЁ ПАЧАЛОСЯ з нашага новага дома. І нават не з дома, а з нашых новых дзвярэй. Не дзверы—чумацкая калымага. Зачыніш іх з размаху— толькі свіснуць па-хуліганску. Але ж зачыняліся яны і самі, спакваля. Пакуль зачыняцца—усе ноты, ад «до» да «сі»» перабяруць.

Любілі нашы дзверы музыку. Ох, як любілі! А таленту—ні-ні. Мы з жонкай самі некалі забаўляліся музыкай і шэдэўр ад халтуры заўсёды можам адрозніць.

Я першы ацаніў музычныя здольнасці сваіх дзвярэй: так грукнуў—аж тынкоўка рухнула са сцяны.

— Звер!—сказала мне жонка.

Потым ухапілася за клямку і так ляснула дзвярыма, што аж у галаве зазвінела.

— Варэпаўка!—сказаў я сярдзіта жонцы.

А дзверы тым часам выводзілі свае мелодыі. Справа дайшла да таго, што мы з жонкай кожны дзень абрасталі новымі эпітэтамі.

А потым аказалася, што і зарплата ў мяне маленькая, і з работы позна прыходжу, і наогул я не такі, як усе мужчыны.

Але і я не свістун які-небудзь— пачаў дакараць жонку за муху, якая пасядзела на маёй нейлонавай кашулі, за кіслы і нясмачны расольнік. А ў горадзе столькі прыгожых дзяўчат — куды толькі глядзеў, як жаніўся?!.

— Давай развядзёмся,—сказаў я жонцы.

— Нарэшце!—зласліва ўсклікнула яна.—Цяпер мы з табой чужыя людзі. Пішы заяву ў суд.

— Вось іменна!—пацвердзіў я і не заплакаў.

З таго дня мы пачалі адзін другога называць на «вы».

Дзверы весяліліся. Грукнуў я.

— Тыгр!

Зноў ляснулі, як стрэлілі, дзверы, і я выразна сказаў:

— Вы-дра!..

Мы развяліся. Назаўсёды. Беспаваротна.

Я зноў перабраўся на прыватную кватэру. І калі ў маёй баковачцы пачынаюць вішчэць дзверы, гаспадар Сільвестр Сазонавіч акуратна змазвае завесы вазелінчыкам.

А ў нашым рэстаране «Шумі, гай», куды я хаджу цяпер ласавацца расольнікам, завялі музыкантаў і назвалі іх «джазам». Тузаюць яны смыкамі па струнах, а я ўспамінаю свае колішнія дзверы і адсоўваю талерку — расольнік робіцца кіслы і нясмачны. А яшчэ я думаю, ці не запрасіць Сільвестра Сазонавіча з вазелінам у «Шумі, гай». Няхай крыху падмажа смыкі, каб не нагадвалі мне пра тыя праклятыя дзверы.

Ул. БАГДАНОВІЧ

## КОСЦЯ НЕ ПАДВЯДЗЕ

ВЫХОДЗЯЧЫ з кабінета, двухметровы дзяцюк так ляпнуў дзвярыма, што сам сабой адчыніўся сталёвы заўкомаўскі сейф.

— Бедны хлопец, — з жалем сказаў нехта.

— Каму ахвота ў пятлю лезці, — уздыхнуў другі.

— Што за размовы! — абурыўся старшыня. — Калі і наступнага пашкадуеце — адправім некага з вас.

Усталявалася цішыня, і ў гэты момант у кабінет усунуўся малады токар Косця Пацэйка.

— Сядай, — лагодным голасам сказаў старшыня і нервова пастукаў пальцамі па шырокай лакіраванай спіне стала. Косця прысеў і агледзеўся. У заўкоме было накурана і мнагалюдна. Усе моўчкі, з цікавасцю разглядалі маладога чалавека.

— Табе, Пацэйка, аказан вялікі давер, — ласкава пачаў старшыня. Косця здрыгануўся. — Не палохайся,— падбадзёрыў старшыня, — ты ж нядаўна з арміі. Мы вырашылі паслаць цябе, дружа, у космас...

— Не! — усклікнуў Косця, ускокваючы і кідаючыся да дзвярэй. Але яго ўмомант затрымалі і ўсадзілі на месца.

— Ну-ну, — цёпла ўсміхнуўся старшыня. — Такі вялікі і дужы...

— Я не дужы, — заенчыў Косця, — я нягеглы...

— Хлусня, — падаў голас інструктар фізкультуры. — Ты восеньскі крос ледзь не выйграў, апроч таго, ты, Пацэйка, аматар турызму і брынькаеш на гітары.

— Ён і ў нас на добрым уліку, — уставіў слова камсорг. — Узносы ў парадку, металалом збірае, два разы ў хоры спяваў.

Косця збялеў, на вочы набеглі слёзы.

— Я працоўную дысцыпліну парушаю. Учора на гадзіну раней станок выключыў.

— Ты хітрыкі кінь, — мудрым голасам сказаў майстар Даміношкін. — Ты ўчора норму перакрыў, а пасля з навічкамі займаўся.

— Кніжкі ён любіць. Мы па яго заяўках іх у бібліятэцы заказваем. Вельмі інтэлектуальны таварыш, — ахарактарызавала Косцю заўкомаўская бібліятэкарка.

— А я сам бачыў, як ты з хлапчукамі мяч ганяў, — падвёў вынікі старшыня. — Так што, Косця, сам разумееш.. На цябе аднаго надзея... Верым, ты не падвядзеш калектыў, які аказаў табе такі высокі...

□

І Косця Пацэйка быў накіраваны атрадным важатым у піянерскі лагер «Космас».

Я. ГЕРЦОВІЧ

## РЭПАРТАЖ З ГАЎПТВАХТЫ

Ходзіць зазімак хлопцам
служывым...
Уладзімір ЛЯПЁШКІН

«Служивый», военнослужащий, нижний чин, служащий или отставной».
В. ДАЛЬ.

**Ходзіць зазімак хлопцам**
**служывым,**
**А зіма развядзёнкай цнатлівай.**
**Пазнаёміў іх зух—маразяка,**
**Не чакаючы нават падзякі.**
**Па загаду вясны патрулямі**
**Самавольшчык разлучаны з дамай,**
**Затрымалі яго на гулянцы,**
**Павялі на губу навабранца.**
**Гаўптвахта ж, вядома, не дача,**
**Тут не ў модзе дары-перадачы,**
**Не пускаюць сюды развядзёнку**
**І Ляпёшкіна з ліраю звонкай.**

Павел ШЫБУТ

## ШРАЦІНКІ

*Паэт настолькі замкнуўся ў сабе, што чытачы не маглі дабраць ключоў да яго вершаў.*

□

*На галаву звальваюцца не толькі беды, але і яблыкі. Гэтую ісціну і даказаў Ньютан.*

□

*Гаварылі, што ў яго і волас з галавы не ўпадзе. Гаварылі не без падстаў — ён быў лысы.*

□

*Паслалі за сланом, каб выцягнуць з балота камара.*

□

*Быў бязгрэшны, пакуль не пачаў наведваць царкву.*

□

*Трымай камень за пазухай нават у лазні.*

□

*Здай у міліцыю 10 капеек, спадзеючыся, што за сумленны ўчынак дадуць прэмію.*

□

*З аднаго зярняці кашы не зварыш, але з яго можна вырасціць колас.*

□

*Воўк і заяц! Будзьце ўзаемна ветлівымі!*

Міхась СКРЫПКА

## КНІГАЛЮБ

**Ён кнігі-скарб цаніць умее,**
**Па колеры іх падабраў,**
**Талстога, Блока, Апулея,**
**Шэкспіра і Хэмінгуэя**
**На стэндах расквытараваў**
**І ўсюды распускае слых,**
**Што дзень і ноч чытае іх.**
**У Салтыкова закахаўся**
**І прачытаў ужо ўсяго.**
**Да Шчадрына, як сам прызнаўся,**
**Не меўшы часу, не дабраўся,**
**Ды прыйдзе час і на яго!**

Віктар ШАЎЧЭНКА

## ЛОГІКА

**— Хутчэй, Іван, сюды, Іван,**
**У нас укралі чамадан.**
**— Няхай нясуць, не верашчы!**
**Замкнуты ён, а вось ключы.**

М. ДУБОЎСКІ

## В'ЕТНАМІЗАЦЫЯ

Генерал выклікаў да сябе лейтэнанта, узвод якога не адбіў у Народных сіл вызвалення важны стратэгічны пункт.

— Лейтэнант Крэбс, — пытаецца генерал, — чаму вы не ўзялі вышыню 106?

— Па простай прычыне, пан генерал!

— Дакладней!

— Не ўзялі, бо нам яго не аддалі.

— А чаму пакінулі абарону?

— Па загадзе Вашынгтона.

— Якім загадзе?

— Наконт в'етнамізацыі. Мы здалі вышыню в'етнамцам!

— Дык жа якім? Не сябрам нашым, а ворагам!

— А хіба яны не в'етнамцы?

## ГЭТЫ МАЛА ЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

*Вышкаліць (пед.) — выключыць са школы.*

*Гумар — вулканізатар.*

*Дамавіна — хатняе віно, самагонка.*

*Драч — жывадзёр, скуралуп.*

*Дыстрофік (літ.) — паэт, які піша вершы ў дзве страфы.*

*Жаргон (мед.) — жарапаніжальны сродак.*

*Загаловак — намеснік.*

*Закаваны — аматар кавы.*

*Кірмаш (абрэвіятура) — машыніст.*

*Ключыца (тэх.) — загадчыца склада.*

*Кнігаўка — кніжная паліца.*

*Мардаваць — біць па твары.*

*Трохножка — матацыкл з каляскай.*

Я. САХУТА, Н. КОЗЕЛ.

Ян ПАН

## МІМАХОДЗЬ

□ Не можаш пісаць — перакладай.

□ Ну і што, калі сабака? Затое друг чалавека!

□ Сем пятніц на тыдні і ніводнага выхаднога.

□ Была ў барана баранеса.

Барыс БЕЛІЖЭНКА

## ПРА ШТО ПІСАЎ ПАЭТ?

**Пісаў паэт і пра траву,**
**Пісаў і пра аблокі,**
**І чым лячыў ён галаву,**
**І з кім хадзіў у скокі.**
**Пра дзеда роднага пісаў**
**І пра яго сабаку,**
**Пра тое, як аднойчы сам**
**Над сваім вершам плакаў.**
**Не ад пачуццяў—ад журбы,**
**Што зразумець не здолеў,**
**Аб чым, уласна, вершык быў**
**З прыгожай назвай «Поле»...**
**Не зразумеўшы, нёс у друк—**
**Мо там яго «раскусяць!»**
**І верш прайшоў праз дзесяць рук,**
**І нават болей, мусіць.**
**Хацеў у вершы зерня мех**
**Знайсці і сам рэдактар—**
**Ды моцны трапіўся арэх,**
**Хоць пакладзі пад трактар.**


**По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

# «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04. аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19. бухгалтэрыі — 32-15-87.








Індэкс 63856 АТ 02374